Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

25 СТУДЗЕНЯ 1927 г.

**№ 3 (28)**

3-ці год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1927 г.

Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ

## БЕЛАРУСКАЕ ССР

25 СТУДЗЕНЯ 1927 г.

№ 3 (28)

3-ці год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1927 г.

# ЗЬМЕСТ.

## Частка афіцыйная.



## Частка неафіцыйная.

## 1. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ ПЕРАВОДЗЕ НЕКАТОРЫХ УСТАНОЎ У САМАСТОЙНЫХ РАСПАРАДЧЫКАЎ КРЭДЫТАЎ 3-ЯЙ СТУПЕНІ.

*Акруговым Аддзелам Народнай Асьветы.*

Практыка пераводу некаторых установ мясцовага бюджэту ў самастойных распарадчыкаў крэдытаў 3-й ступені паказала, што адміністрацыя гэтых установ, адчуваючы большую адказнасьць за мэтазгоднае і рацыянальнае выдаткаваньне сродкаў, вядзе гаспадарку больш уважліва, выказвае большую зацікаўленасьць у гаспадарчым жыцьці ўстановы, прыцягваецца да працы па складаньню каштарысу ўстановы і г. д.

Усё гэта, бязумоўна, добра адбіваецца на стане ўстановы і дае магчымасьць Акр. Адзел. Народн. Асьветы, звольніўшыся ад гаспадарча-адміністрацыйнай часткі, больш увагі зварочваць на мэтадычна-арганізацыйную частку ўстановы.

Прымаючы гэта пад увагу і тое, што з боку Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў няма перашкод да прысваеньня некаторым установам праў распарадчыкаў крэдытаў 3-й ступені (адносьнік НКГС за 30/XII-1926 г. № 5501-7), Н.К. Асьветы просіць прыняць заraз-жа крокі да перадачы крэдытаў прадугледжаных па каштырысу мясцовых сродкаў больш сталым установам у непасрэднае іх распараджэньне.

Сьпіс гэтых установ належыць узгодніць з Акр. Грашов. Адзелам

З свайго боку, па ўзгадненьні з Н. К. Грашовых Спраў, Н. К. Асьветы раіць перавесьці ў самастойныя распарадчыкі крэдытамі наступныя ўстановы:

1. Школы 7-х годкі
2. „ 4-х камплектныя.
3. „ 3-х камплектныя.
4. „ сялянскае моладзі.
5. Вучэбна-практык. майстэрні.
6. Народныя дамы.
7. Бібліатэкі.
8. Школы павышанага тыпу для дарослых.
9. „ рабочай моладзі.
10. Клюбы.

Аб выніках просьба паведаміць.

ДАДАТАК. Копія адносьніка Н.К. Грашовых Спраў за № 5501-7.

Нам. Народнага Камісара
Асьветы БССР **П. Валасэвіч**.

Загадчык Грашовага Адзелу НКА **Эвенчык**.

Загадчык Агульнага
Аддзелу НКА **Ю. Савіч**.

3 студзеня 1927 г.
№ 10.

ДАДАТАК

## У Народны Камісарыят Асьветы.

Па пытаньні аб прысваеньні праў трэцяе ступені распараджэньня крэдытамі некаторым установам Н. К. Асьветы, фінансіруемых па мясцовых бюджэтах, як-та: школам сямёхгодкам, чатырохкамплектным школам, дзіцячым дамом, 3-х камплектным школам, школам сялянскае моладзі, вучэбна-практывальным майстэрням, нардамом, бібліятэкам, школам павышанага тыпу для дарослых, школам рабочае моладзі, партыйным клюбам і клюбам глуханямых, Н.К. Грашовых Спраў наведамляе, што з яго боку пярэчаньняў няма.

Народны Камісар
Грашовых Спраў БССР **І. Васілевіч.**

За Начальніка Кіраўніцтва Мясцовых
Фінансаў НКГС **А. Мамантаў.**

30 сьнежня 1926 г.
№ 5501-7.

---

## 2. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ ПРАКТЫЧНЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАХ ПА ПРАВЯДЗЕНЬНІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАЛІТЫКІ Ў ГАЛІНЕ НАРОДНАЕ АСЬВЕТЫ Ў 1926/27 НАВУЧАЛЬНЫМ ГОДЗЕ.

У разьвіцьцё арт. 3—5 пастановы 2-е Сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саветаў БССР VI скліканьня за 15 ліпеня 1924 г. (Зб. Зак. і Заг. за 1924 г. № 11, арт. 108) „аб практычных мерапрыемствах па правядзеньні нацыянальнае палітыкі", Народны Камісарыят Асьветы пастанаўляе:

### А. Па сацыяльным выхаваньні.

1. Ва ўсіх беларускіх працоўных школах на тэрыторыі, якая ўвайшла ў склад БССР ў 1924 годзе, весьці выкладаньне на беларускай мове ва ўсіх клясах першага канцэнтру.

*Увага.* У тых школах вышэйпаказанай катэгорыі, у якіх цалкам пераведзен на беларускую мову першы канцэнтр, весьці выкладаньне на беларускай мове і ў пятых клясах.

2. У школах сялянскай моладзі, абслугоўваючых, пераважна, вучняў беларускай нацыянальнасьці, весьці выкладаньне на беларускай мове ва ўсіх клясах.

3. У чыгуначых школах з пераважным лікам вучняў-беларусаў весьці выкладаньне на беларускай мове ў 1, 2 і 3 клясах.

4. Пры разьмеркаваньні бюджэтных сродкаў на 1926/27 г. канчаткова выраўняць матар'яльнае становішча працоўных школ нацыянальных меншасьцяй, асабліва там, дзе ўтвораны нацыянальныя сельскія і местачковыя саветы.

5. Для нармальнага ўкамплектаваньня настаўніцкім складам латыскіх, літоўскіх і нямецкіх школ, Галоўнай Управе Сацыяльнага Выхаваньня разам з адпаведнымі нацыянальнымі бюро прыняць меры да плянавай падрыхтоўкі настаўнікаў для гэтых школ у адпаведных пэдагагічных установах іншых рэспублік.

## Б. Па прафэсіянальна-тэхнічнай асьвеце.

6. У Аршанскім і Мазырскім Пэдагагічных Тэхнікумах і на 2-х гадовых настаўніцкіх беларускіх курсах выкладаньне весьці цалкам на беларускай мове.

7. Прымаючы пад увагу малы лік польскіх сямёхгадовых школ і, у зьвязку з гэтым, немагчымасьць нармальнага камплектаваньня вучнямі Польскага Пэдагагічнага Тэхнікуму, захаваць пры апошнім падрыхтоўчы курс.

8. На аднагадовых сельска-гаспадарчых курсах для дарослых сялян весьці выкладаньне выключна на беларускай мове.

9. Адчыніць у Барысаўскай акрузе аднагадовыя сельска-гаспадарчыя курсы для дарослых сялян з выкладаньнем на польскай мове за кошт зацьверджанай сеткі курсаў на 1926/27 навучальны год.

10. Усім сельска-гаспадарчым тэхнікумам і прафшколам з 1926/27 навучальнага году ўсе заняткі на першым курсе (1-шы год навучаньня) весьці выключна на беларускай мове, а на іншых курсах, як мінімум, пряцагваць працу на беларускай мове па тых прадметах, якія на папярэднім і на данным курсе ўжо вяліся на беларускай мове.

11. Беларускаму Музычнаму Тэхнікуму і музычным школам узяць напрамак да вывучэньня беларускае музычнае творчасьці, а таксама і музычнае творчасьці іншых нацыянальнасьцяй БССР.

12. У Віцебскім Беларускім Дзяржаўным Мастацкім Тэхнікуме перавесьці на беларускую мову выкладаньне ва ўсіх клясах і тэхнікуму узяць напрамак да зьбіраньня і вывучэньня старажытнага і сучаснага беларускага мастацтва і да падрыхтоўкі мастакоў у галіне творчасьці ў беларускім стылю.

13. У навучальна-практыкавальных майстэрнях, якія знаходзяцца ў сельскіх мясцовасьцях, выкладаньне цалкам перавесьці на беларускую мову.

14. У прафэсіянальна-тэхнічных школах: Чавускай, Клімавіцкай, Крычаўскай, Слуцкай і Старасельскай выкладаньне агульна-адукацыйных прадметаў ва ўсіх групах весьці на беларускай мове.

15. У індустрыяльных тэхнікумах і прафэсіянальна-тэхнічных школах (апрача пералічаных у папярэднім пункце), з пераважным лікам вучняў беларускай нацыянальнасьці, выкладаньне агульна-адукацыйных дысцыплін у першай групе весьці на беларускай мове і імкнуцца да выкладаньня на беларускай мове паасобных дысцыплін у старэйшых групах, калі для гэтага ёсьць адпаведныя ўмовы і магчымасьці.

16. Адчыніць пры Рабочым Факультэце Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту яўрэйскае аддзяленьне з ліку вучняў, паступіўшых на рабочы факультэт, калі колькасьць жадаючых будзе здавальняючая.

17. Вышэйшым навучальным установам прыняць меры да прыцягненьня ў гэтыя ўстановы навуковых працаўнікоў беларусаў, якія зараз працуюць у іншых рэспубліках СССР і ў замежных дзяржавах.

18. Пры высоўваньні кандыдатаў у навуковыя працаўнікі аддаваць перавагу тым асобам, якія пры ідэалёгічнай блізкасьці да рабочае клясы і належнай падрыхтоўцы, ведаюць беларускую мову і выявілі сябе актыўнымі праваднікамі нацыянальнае палітыкі.

19. Вышэйшым навучальным установам павесьці плянавую падрыхтоўку новых навуковых працаўнікоў беларусаў, як у сваіх установах так і ў вышэйшых навучальных установах саюзных рэспублік.

20. У мэтах падрыхтоўкі ў замежных дзяржавах прафэсароў для вышэйшых навучальных устаноў БССР высоўваць для пасылкі ў замежную камандыроўку навуковых працаўнікоў па тых галінах навукі, у якіх адчуваецца вялікая патрэба ў высока-кваліфікаваных працаўнікох, пры гэтым у першую чаргу пасылаць ведаючых беларускую мову, быт і асаблівасьці Беларусі, найбольш здольных, палітычна-вытрыманых і актыўных навуковых працаўнікоў.

21. Галоўнай Управе Прафэсіянальна-Тэхнічнай Асьветы распрацаваць канкрэтны плян пераводу на беларускую мову выкладаньня ў вышэйшых навучальных установах БССР з паказаньнем тэрміну пераходу на беларускую мову кожнага навуковага працаўніка паасобку і ўстанавіць кантроль за выкананьнем пляну з тым, каб канчатковая беларусізацыя Вышэйшых Навучальных Устаноў была выканана ў тэрмін вызначаны II Сэсіяй Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР VI скліканьня.

## В. Па палітычнай асьвеце.

22. Адчыніць хаты-чытальні на мове нацыянальных меншасьцяй ва ўсіх нацыянальных саветах.

23. У раёнах, дзе нацыянальныя меншасьці складаюць значны лік насяленьня, штаты народных дамоў і клюбаў укамплектоўваць працаўнікамі, якія могуць весьці працу на мовах нацыянальных меншасьцяй.

24. Галоўнаму Камітэту Палітычнай Асьветы распрацаваць плян паступовага пераходу на беларускую мову выкладаньня вячэрніх школ павышанага тыпу для дарослых рабочых і рабочае моладзі, пры гэтым у 1926/27 навучальным годзе ва ўсіх першых групах беларускіх школ дарослых і рабочае моладзі выкладаньне перавесьці на беларускую мову.

25. У школах малапісьменных выкладаньне перавесьці на родную мову.

26. Акруговым аддзелам народнае асьветы, пры папаўненьні бібліятэк, народных дамоў, хат-чытален, школ малапісьменных і лікпунктаў літаратурай, прыняць меры да закупкі літаратуры на беларускай мове і на мове іншых нацыянальнасьцяй.

27. Пры распрацоўцы пляну працы Беларускага Дзяржаўнага Вандроўнага Тэатру мець на ўвазе асноўныя заданьні гэтага тэатру —абслугоўваньне вёскі.

28. Прыняць тэрміновыя крокі да выпуску тэатральных п'ес для вёскі і да выданьня ў 1926/27 навучальным годзе кіно-фільмы, якая адбівала-б беларускі быт і рэвалюцыйную чыннасьць на Беларусі, а разам з гэтым выпусьціць кіно-фільму з жыцьця яўрэйскае нацыянальнасьці.

29. Давесьці лік кіно-перасовак да 50.

30. Закончыць беларусізацыю Магілёўскай Савецкай Партыйнай школы.

31. Перавесьці цалкам на беларускую мову першы курс беларускага аддзяленьня Віцебскае Савецкае Партыйнае Школы і агульнаасьветных дысцыплін на другім курсе.

32. Даручыць Галоўнай Управе па справах літаратуры і выдавецтва не даваць дазволу на выпуск плякатаў, якіх-бы то ні было

ўстаноў бяз санкцыі Галоўнага Камітэту Палітычнай Асьветы, пры гэтым мець на ўвазе, каб паказаныя плякаты адбівалі характэрныя асаблівасьці Беларусі і мелі надпісы на мове тэй нацыянальнасьці, для якой яны выдаюцца.

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі.**

Загадчык Агульнага Аддзелу НКА **Ю. Савіч.**

8 студзеня 1927 г.
№ 36.

---

## 3. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### АБ ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНІ СТАТУТАЎ ТАВАРЫСТВА І ГУРТКОЎ КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОВАХ.

Народны Камісарыят Асьветы пастанаўляе:

Зацьвердзіць ніжэйпералічаныя, далучаныя да гэтага праэкты статутаў гурткоў і таварыства краязнаўства:

1. Статут Таварыства краязнаўства пры вышэйшых навучальных установах,
2. Статут гуртка краязнаўства пры тэхнікумах і курсах,
3. Статут гуртка краязнаўства пры школах розных тыпаў,
4. Статут гуртка краязнаўства пры хатах-чытальнях, народных дамох і бібліатэках.

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі.**

Загадчык Агульнага
Аддзелу Н. К. Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

15 студзеня 1927 г.
№ 38.

---

ДАДАТАК 1.

СТАТУТ ТАВАРЫСТВА КРАЯЗНАЎСТВА ____________________
(назва Вышэйшэй школы)

### 1. Мэты і задачы Таварыства.

§ 1. Таварыства Краязнаўства ____________________
(назва Вышэйшай школы)
мае мэтай:

а) зьбіраньне краязнаўчых матар'ялаў па Беларусі ў прыродна-геаграфічным, культурна-гістарычным і сацыяльна-эканамічным кірунках і навуковую іх апрацоўку;

б) дасьледчую і навуковую апрацоўку ўжо сабранага краязнаўчага матар'ялу ў архівах, музэях і іншых установах;

в) пашырэньне ведаў, зьвязаных з задачамі Таварыства і папулярызацыю краязнаўства сярод студэнтаў і шырокіх колаў насяленьня.

§ 2. Для ажыцьцяўленьня паказаных у § 1 заданьняў Таварыства:

а) арганізуе сходы, на якіх заслухоўвае, абгаварвае даклады аб мэтадах і выніках свае працы;

б) арганізуе лекцыі, вечарыны, дыспуты, даклады і г. д.

в) арганізуе нагляданьні, экспэдыцыі. экскурсіі;

г) дапамагае арганізацыі музэяў і габінэтаў свае школы;

д) дапамагае ў працы мясцовых краязнаўчых арганізацый;

е) зьбірае бібліатэчку адпаведна сваім заданьням;

ж) клапоціцца аб апублікаваньні сваіх работ;

з) сваю дзейнасьць зьвязвае з мэтавай установай і заданьнямі навучальнае ўстановы паводле пляну працы апошняй і кіруецца ў сваёй працы праграмамі і паказаньнямі, выданымі Ц. Б. К.;

і) зносіцца з ЦБК і іншымі навуковымі краязнаўчымі арганізацыямі.

§ 3. Таварыства мае сваю пячатку з надпісам: „Беларуская Сацыялістычная Рэспубліка. Таварыства Краязнаўства________________________________________________".

## II. Склад Таварыства.

§ 4. Членамі Таварыства зьяўляюцца:

а) закладчыкі Таварыства ў ліку ня менш 10;

б) студэнты, прафэсары, выкладчыкі і іншыя працаўнікі свае вышэйшае школы, падаўшыя аб гэтым пісьмовую заяву ў Праўленьне Таварыства з рэкамэндацыяй прафэсіянальных арганізацый навучальнай установы або 2-х членаў Таварыства і прынятыя агульным сходам.

§ 5. Кожны член Таварыства павінен весьці актыўную працу па выкананьні пастаўленых Таварыствам заданьняў і ажыцьцяўляць усе пастановы агульнага сходу і Праўленьня Таварыства.

§ 6. Сьпіс членаў Таварыства ў 1 экз. перадаецца ў Праўленьне вышэйшай школы, якое зацьвердзіла Таварыства.

§ 7. Член Таварыства можа быць выключан са складу Таварыства па сваей заяве аб гэтым, альбо толькі па пастанове агульнага сходу, пры гэтым прычынай выключэньня ў гэтым выпадку можа быць учынак ці наогул дзейнасьць, якія падрываюць аўтарытэт Таварыства.

## III. Сродкі Таварыства.

§ 8. Сродкі Таварыства складаюцца:

а) з членскіх узносаў і афяраваньняў;

б) з субсыдый дзяржаўных і грамадзкіх установаў, аднаразовых альбо пастаянных;

в) з прыбыткаў ад продажу краязнаўчых выданьняў;

г) са збораў за ўваход на лекцыі, выстаўкі, вечарыны і г. д.

*Увага* 1. Велічыня членскіх узносаў вызначаецца агульным сходам Таварыства, пры гэтым агульны сход можа звальняць ад выплаты членскіх узносаў тых членаў, якія ня могуць заплаціць іх.

*Увага* 2. Члены Таварыства, якія не заплацілі за паўгода вызначаных узносаў, лічацца выбыўшымі з ліку членаў Таварыства. Але яны зноў уваходзяць у Таварыства пасьля ўнясеньня належных узносаў бяз новага абраньня.

§ Сродкі Таварыства выдаткоўваюцца Прэзыдыумам па кашта-

рысах, разгледжаных Праўленьнем і зацьверджаных агульным сходам. Справаздачы аб выдатках, разгледжаныя і зацьверджаныя Праўленьнем Таварыства, перадаюцца ў тую ўстанову, з якой атрыманы сродкі, а копіі справаздач захоўваюцца ў справах Таварыства.

## IV. Агульныя сходы Таварыства.

§ 10. Сходы Таварыства склікаюцца Праўленьнем Таварыства з папярэднім пісьмовым паведамленьнем і ўзгадненьнем з Праўленьнем школы за тры дні да сходу і падзяляюцца на чарговыя і загадныя.

§ 11. Чарговыя сходы лічацца адбытымі пры ўсякім ліку прысутных членаў, а загадныя пры прысутнасьці кворуму, які вызначаецца Праўленьнем у павестках.

§ 12. Чарговыя сходы склікаюцца Праўленьнем для заслухоўваньня і абгаварваньня навуковых дакладаў і пытаньняў, зьвязаных з навуковай дзейнасьцю Таварыства, і лічацца адчыненымі.

§ 13. Загадныя агульныя сходы склікаюцца Праўленьнем, альбо па пастанове рэвізійнае камісіі ці паводле заявы ня меней 10 членаў Таварыства.

§ 14. Агульныя загадныя сходы:

а) выбіраюць Праўленьне Таварыства і рэвізійную камісію;

б) прымаюць новых членаў Таварыства;

в) разглядаюць і зацьвярджаюць справаздачы Праўленьня аб дзейнасьці Таварыства і пастановы рэвізійнае камісіі;

г) разглядаюць і зацьвярджаюць пляны далейшай працы Таварыства, якія ўносіць Праўленьне;

д) выбіраюць дэлегатаў на Ўсебеларускую Краязнаўчую Канфэрэнцыю;

е) вызначаюць патрэбныя сэкцыі і сталыя камісіі Таварыства;

ж) вызначаюць велічыню членскіх узносаў;

з) зацьвярджаюць праэкты каштарысаў;

і) выключаюць членаў Таварыства;

к) абгаварваюць праэкты аб зьменах у статуце Таварыства;

*Увага.* Прынятыя Таварыствам зьмены ў статуце зацьвярджаюцца Праўленьнем навучальнае ўстановы.

л) абгаварваюць пытаньне аб зачыненьні Таварыства.

§ 15. Усе справы на сходах вырашаюцца галасаваньнем простай большасьцю прысутных членаў Таварыства, апрача пытаньня аб яго зачыненьні, для вырашэньня якога патрэбна большасьць у $^{2}/_{3}$ галасоў прысутных членаў. Пры роўнасьці галасоў пытаньне лічыцца адхіленым.

## V. Праўленьне Таварыства.

§ 16. Праўленьне Таварыства выбіраецца агульным сходам Таварыства (загадным) тэрмінам ня больш году ў вызначаным агульным сходам ліку. Праўленьне са свайго складу вылучае прэзыдыум у складзе 5 асоб, куды ўваходзяць: старшыня, намесьнік, сэкратар, скарбнік і член Прэзыдыуму. Аб складзе Праўленьня і ўсіх зьменах у ім паведамляецца праўленьне даннай вышэйшай школы.

§ 17. Праўленьне Таварыства:

а) ажыцьцяўляе пастановы агульных сходаў і канфэрэнцый;

б) кіруе дзейнасьцю сэкцый і камісій Таварыства;

в) кіруе адміністрацыйна-фінансавымі і гаспадарчымі справамі Таварыства;

г) робіць справаздачу перад агульным сходам Таварыства, а копію пасылае ЦБК.

д) робіць справаздачы аб сваёй дзейнасьці Праўленьню навучальнае установы і інфармуе аб сваёй працы кіруючыя студэнцкія арганізацыі навучальнае ўстановы.

## VI. Рэвізійная Камісія Таварыства.

§ 18. Рэвізійная камісія Таварыства выбіраецца агульным сходам Таварыства ў ліку ня менш 3-х асоб адначасна з абраньнем Праўленьня.

§ 19. Рэвізійная Камісія сочыць за выкананьнем ускладзеных на Праўленьне абавязкаў, за правільнасьцю выдаткаваньня грашовых сродкаў, разглядае скаргі на дзейнасьць Праўленьня і справаздачу аб сваёй працы дае агульнаму сходу Таварыства.

## VII. Ліквідацыя Таварыства.

§ 20. Таварыства можа быць ліквідавана як загадам урадавых установаў, так і пастановай агульнага сходу Таварыства.

§ 21. У выпадку ліквідацыі Таварыства Праўленьне падае аб гэтым даклад Праўленьню вышэйшае навучальнае установы і копію яго пасылае ЦБК.

§ 22. Уся маёмасьць, якая належала зачыненаму Таварыству, паступае пад загад вышэйшай школы, пры якой існавала Таварыстава.

Закладчыкі (подпісы)

---

ДАДАТАК 2.

## СТАТУТ ГУРТКА.........................................................................
(назва тэхнікуму, курсаў і інш.)

## I. Мэты і задачы гуртка.

§ 1. Гурток краязнаўства.............................................мае мэтай:
(назва ўстановы)

а) зьбіраньне краязнаяўчых матар‘ялаў па сваёй акрузе і Беларусі наогул у прыродна-геаграфічным, сацыяльна-эканамічным, культурна-гістарычным кірунках і іх апрацоўку;

б) пашырэньне ведаў, зьвязаных з задачамі гуртка, і папулярызацыю краязнаўства сярод студэнтаў свае школы і шырокіх колаў насяленьня.

§ 2. Для ажыцьцяўленьня паказаных у § 1 заданьняў гурток:

а) арганізуе сходы, на якіх заслухоўвае, абгаварвае даклады аб мэтадах і выніках сваё працы;

б) арганізуе лекцыі, вечарыны, дыспуты, даклады і г. д.;

в) арганізуе нагляданьні, экспэдыцыі, экскурсіі;

г) дапамагае арганізацыі музэяў і габінэтаў свае школы;

д) дапамагае ў працы мясцовых краязнаўчых арганізацый;

е) зьбірае бібліатэчку адпаведна сваім заданьням;

ж) клапоціцца аб апублікаваньні сваіх работ;

з) сваю дзейнасьць зьвязвае з мэтавай устаноўкай і заданьнямі

навучальнае ўстановы, паводле пляну працы апошняй, і кіруецца ў сваёй працы праграмамі і паказаньнямі, выданымі Ц. Б. К.;

і) зносіцца з ЦБК і другімі навуковымі краязнаўчымі арганізацыямі, а таксама з Акруговым Таварыствам Краязнаўства па пытаньню дасьледаваньня акругі, у якой знаходзіцца гурток.

## II. Склад гуртка.

§ 3. Членамі гуртка зьяўляюцца:

а) закладчыкі гуртка ў ліку ня менш 10;

б) студэнты, выкладчыкі і іншыя працаўнікі свае школы, падаўшыя аб гэтым пісьмовую заяву ў Праўленьне гуртка з рэкамандацыяй прафарганізацый, навучальнай установы або 2-х членаў Таварыства і прынятыя агульным сходам гуртка.

§ 4. Кожны член гуртка павінен весьці актыўную працу па выкананьні пастаўленых гуртком заданьняў і ажыцьцяўляць усе пастановы агульнага сходу і праўленьня гуртка.

§ 5. Кожны член мае права прымаць удзел у акруговых краязнаўчых конфэрэнцыях альбо выбіраць дэлегатаў на іх.

§ 6. Член гуртка можа быць выключаны са складу гуртка па сваёй заяве аб гэтым, альбо толькі па пастанове агульнага сходу, пры гэтым прычынай выключэньня ў гэтым выпадку можа быць учынак ці наогул дзейнасьць, якія падрываюць аўтарытэт Таварыства.

Сьпіс членаў гуртка падаецца ў савет сваё навучальнае ўстановы, якая зацьвердзіла гурток.

## III. Сродкі гуртка.

§ 8. Сродкі гуртка складаюцца:

а) з членскіх узносаў і афяраваньняў;

б) з субсыдый дзяржаўных і грамадзкіх устаноў, аднаразовых ці пастаянных;

в) з прыбыткаў ад продажу краязнаўчых выданьняў;

г) са збораў за ўваход на лекцыі, выстаўкі, вечарыны і г. д.

*Увага 1.* Велічыня членскіх узносаў вызначаецца агульным сходам гуртка, пры гэтым агульны сход па тых ці іншых прычынах можа звальняць членаў гуртка ад выплаты членскіх узносаў.

*Увага 2.* Члены, якія не заплацілі за паўгода вызначаных узносаў, лічацца выбыўшымі з ліку членаў гуртка. Але яны зноў уваходзяць у гурток пасьля ўнясеньня належных узносаў бяз новага абраньня.

§ 9. Сродкі гуртка выдаткоўваюцца праўленьнем. Справаздача аб выдатках, разгледжаная і зацьверджаная агульным сходам гуртка, перадаецца ў тую ўстанову, з якой атрыманы сродкі, а копія справаздачы захоўваецца у справах гуртка.

## IV. Агульныя сходы гуртка.

§ 10. Агульныя сходы гуртка склікаюцца праўленьнем з папярэднім пісьмовым паведамленьнем і ўзгадненьнем з саветам сваё школы за 3 дні да сходу. Справы на агульным сходзе вырашаюцца простаю большасьцю галасоў.

§ 11. Агульны сход:

а) прымае новых членаў гуртка;

б) выбірае членаў праўленьня і рэвізійнай камісіі;

в) зацьвярджае плян працы;

г) заслухоўвае справаздачы праўленьня;

д) заслухоўвае даклады адпаведна сваім мэтам і заданьням;

е) зацьвярджае грашовыя выдаткі і пастановы рэвізійнае камісіі;

ж) абгаварвае праэкты аб зьменах у статуце, якія зацьвярджаюцца ва ўстаноўленым парадку.

§ 12. Агульны сход лічыцца правамоцным, калі прысутнічае ня менш паловы членаў гуртка.

## V. Праўленьне гуртка.

§ 13. Праўленьне гуртка выбіраецца агульным сходам гуртка на тэрмін ня больш году ў вызначаным агульным сходам ліку. Праўленьне са свайго складу вылучае старшыню, намесьніка і сэкратара. Аб складзе Праўленьня і ўсіх зьменах у ім паведамляецца савет даннае ўстановы.

§ 14. Праўленьне гуртка:

а) ажыцьцяўляе пастановы агульных сходаў;

б) кіруе гаспадарчымі справамі гуртка;

в) робіць справаздачу перад агульным сходам гуртка, а копію пасылае акруговаму ці раённаму таварыству;

г) робіць даклады аб дзейнасьці гуртка на пасяджэньні савету свае навучальнае ўстановы.

## YI. Рэвізійная камісія гуртка.

§ 15. Рэвізійная камісія выбіраецца агульным сходам гуртка ў ліку ня менш 3-х асоб адначасна з выбарам праўленьня.

§ 16. Рэвізійная камісія сочыць за выкананьнем ускладзеных на праўленьне абавязкаў, за правільнасьцю выдаткаваньня грашовых сродкаў, разглядае скаргі на дзейнасьць праўленьня і справаздачу аб сваёй дзейнасьці дае агульнаму сходу гуртка і савету свае навучальнае ўстановы.

## VII. Ліквідацыя гуртка.

§ 17. Гурток можа быць ліквідаваны як загадам урадавых установаў, так і пастановай агульнага сходу гуртка і савету свае навучальнае ўстановы.

§ 18. У выпадку ліквідацыі гуртка праўленьне падае аб гэтым даклад савету свае навуч. установы і копію яго пасылае праўленьню Акруговага Таварыства Краязнаўства. Уся маемасьць гуртка паступае пад загад свае навучальнае ўстановы.

Заклáдчыкі (подпісы)

---

ДАДАТАК 3.

## СТАТУТ ГУРТКА КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ ........................ШКОЛЕ.

## I. Мэты і задачы гуртка.

§ 1. Гурток краязнаўства пры.................. (назва школы: пачатковай, сямёхгодкі, сялянскай моладзі і г. д.) мае мэтай:

а) усебаковае вывучэньне і дасьледаваньне свае тэрыторы ў прыродна-географічным, грамадзка-эканамічным і культурна-гістарычным стасунках у межах__________ (назва вёскі, мястэчка, сельсавету ці раёну);

б) пашырэньне ведаў, зьвязаных з вывучэньнем свае тэрыторыі;

в) абуджэньне зацікаўленасьці да краязнаўства сярод шырокіх колаў грамадзянства.

§ 2. Школьны гурток краязнаўства зацьвярджаецца пастановай школьнага савету.

§ 3. Для ажыцьцяўленьня паказаных у § 1 заданьняў гурток:

а) арганізуе сходы, на якіх заслухоўвае, абгаварвае даклады аб мэтадах і выніках свае працы;

б) арганізуе лекцыі, вечарыны, дыспуты і інш.;

в) арганізуе нагляданьні, экспэдыцыі, экскурсіі;

г) дапамагае арганізацыі музэяў і габінэтаў свае школы;

д) дапамагае ў працы мясцовых краязнаўчых арганізацый;

е) зьбірае бібліатэчку адпаведна сваім заданьням;

ж) у сваей дзейнасьці кіруецца інструкцыямі і праграмамі, выданымі ЦБК, і саветамі раённага таварыства краязнаўства;

з) зносіцца з краязнаўчымі арганізацыямі.

## II. Склад гуртка.

§ 4. Членамі гуртка зьяўляюцца:

а) закладчыкі гуртка ў ліку ня менш 7;

б) вучні, настаўнікі і іншыя працаўнікі школы, якія падалі аб гэтым заяву і прыняты агульным сходам гуртка.

§ 5. Кожны член гуртка павінен весьці актыўную працу па выкананьні пастаўленых гуртком заданьняў і ажыцьцяўляць усе пастановы агульнага сходу і праўленьня гуртка.

§ 6. Член гуртка можа быць выключаны са складу гуртка па сваей заяве аб гэтым, альбо па пастанове агульнага сходу гуртка, пры гэтым прычынай выключэньня ў гэтым выпадку можа быць учынак, які падрывае аўтарытэт гуртка. Вучні школы—члены гуртка, скончыўшыя курс, ці выключаныя са школы да сканчэньня курсу выключаюцца із гуртка.

§ 7. Сьпіс членаў гуртка падаецца ў школьны савет і ў мясцовае таварыства краязнаўства.

## III. Сродкі гуртка.

§ 8. Сродкі гуртка складаюцца:

а) з членскіх узносаў і афяраваньняў;

б) з субсыдый дзяржаўных і грамадзкіх установ, аднаразовых ці пастаянных;

в) з прыбыткаў ад продажу краязнаўчых выданьняў;

г) са збораў за ўваход на лекцыі, выстаўкі, вечарыны і г. д.

*Увага* 1. Велічыня членскіх узносаў вызначаецца агульным сходам гуртка, пры гэтым агульны сход па тых ці іншых прычынах можа зьвальняць членаў гуртка ад выплаты членскіх узносаў.

*Увага* 2. Члены, якія не заплацілі ў свой час вызначаных узносаў, лічацца выбыўшымі з ліку членаў гуртка. Але яны зноў уваходзяць у гурток пасьля ўнясеньня належных узносаў бяз новага абраньня.

§ 9. Сродкі гуртка трацяцца праўленьнем. Справаздача аб выдатках, разгледжаная і зацьверджаная агульным сходам гуртка, перадаецца ў тую ўстанову, з якой атрыманы сродкі, а копія справаздачы перадаецпа ў школьны савет.

## IV. Агульныя сходы гуртка.

§ 10.Агульныя сходы гуртка склікаюцца праўленьнем з папярэднім паведамленьнем савету школы за 3 дні да сходу. Справы на агульным сходзе вырашаюцца простаю большасьцю галасоў.

§ 11. Агульны сход:

а) прымае навых членаў гуртка;

б) выбірае членаў праўленьня і рэвізійнай камісіі;

в) зацьвярджае плян працы;

г) заслухоўвае справаздачу праўленьня і даклады;

д) зацьвярджае грашовыя выдаткі і пастановы рэвізійнай камісіі.

е) абгаварвае праэкты аб зьменах у статуце, якія зацьвярджаюцца ва ўстаўноленым парадку.

§ 12. Агульны сход лічыцца правамоцным, калі прысутнічае ня менш паловы членаў гуртка.

## V. Праўленьне гуртка.

§ 13. Праўленьне гуртка абіраецца агульным сходам гуртка на тэрмін ня больш году ў вызначаным агульным сходам ліку. Праўленьне са свайго складу вылучае старшыню, намесьніка (ён-жа скарбнік) і сэкратара. Аб складзе праўленьня і ўсіх зьменах у ім паведамляецца савет школы.

§ 14. Праўленьне гуртка:

а) наглядае за выкананьнем пастаноў агульных сходаў;

б) сочыць за правільнасьцю дзейнасьці гуртка;

в) кіруе гаспадарчымі справамі гуртка;

г) робіць справаздачу перед агульным сходам гуртка, а копію пасылае мясцоваму таварыству краязнаўства і савету свае школы;

д) рэбіць даклад аб дзейнасьці гуртка на пасяджэньні савету свае школы;

е) вядзе вучот дзейнасьці і маемасьці гуртка і музэю.

## VI. Рэвізійная камісія гуртка.

§ 15. Рэвізійная камісія абіраецца агульным сходам гуртка ў ліку 3-х асоб аднаначасова з абраньнем праўленьня і на той самы тэрмін.

§ 16. Рэвізійная камісія сочыць за выкананьнем ускладзеных на праўленьне абавязкаў, за правільным выдаткаваньнем грашовых сродкаў, разглядае скаргі на дзейнасьць праўленьня і справаздачу аб сваей дзейнасьці дае агульнаму сходу гуртка і савету свае школы

## VII. Ліквідацыя гуртка.

§ 17. Гурток можа быць ліквідаваны як загадам урадавых устаноў, так і пастановай агульнага сходу гуртка, альбо пастановай школьнага савету.

§ 18. У выпадку ліквідацыі гуртка праўленьне падае аб гэтым даклад праўленьню мясцовага таварыства краязнаўства. Уся маёмасьць гуртка паступае пад загад свае школы.

Закладчыкі (подпісы)

---




ДАДАТАК 4.

# СТАТУТ .................................................. ГУРТКА КРАЯЗНАЎСТВА.

(пры хатах-чытальнях, народных дамох і бібліатэках).

## I. Мэты і задачы гуртка.

§ 1. .................................................. гурток краязнаўства мае мэтай:

а) ўсебаковае вывучэньне і дасьледаваньне свае тэрыторыі ў прыродна—географічным, грамадзка-эканамічным і культурна-гістарычным стасунках у межах ..................................................
(назва вёскі, мястэчка, сельсавету); ..................................................

б) пашырэньне ведаў, зьвязаных з вывучэньнем свае тэрыторыі;

в) абуджэньне зацікаўленасьці да краязнаўства сярод шырокіх колаў грамадзянства.

§ 2. Для ажыцьцяўленьня паказаных у § 1 заданьняў гурток:

а) арганізуе сходы, на якіх заслухоўвае і абгаварвае даклады аб спосабах дасьледаваньня і вывучэньня свае тэрыторыі, а таксама і выніках гэтае работы;

б) арганізуе публічныя лекцыі, вечарыны, дыспуты і г. д.;

в) арганізуе нагляданьні, зьбіраньне калекцый і матар'ялаў і экскурсіі;

г) дапамагае арганізацыі раённага краязнаўчага музэю, сталых і пэрыядычных раённых выставак і іншых дапаможных установаў раённага таварыства краязнаўства;

д) зьбірае бібліатэчку адпаведна сваім заданьням;

е) клапоціцца аб апублікаваньні сваіх работ, альбо навуковай апрацоўцы сваіх матар'ялаў;

ж) у сваёй дзейнасьці падлягае агульнаму кіраўніцтву праўленьня раённага таварыства краязнаўства;

з) выконвае постановы ўсебеларускіх краязнаўчых зьездаў;

*Увага.* Паказаныя ў § 2 правы гурток ажыцьцяўляе на падставе і ў межах адпаведных законапалажэньняў.

## II. Склад гуртка.

§ 3. Членам гуртка можа быць кожны грамадзянін, не маладзей 15 год і не пазбаўлены выбарчага права, які згодзен з статутам гуртка, жадае працаваць па ажыцьцяўленьні яго заданьняў, падаў аб гэтым заяву ў праўленьне гуртка і прыняты агульным сходам членаў гуртка, пры гэтым першымі членамі гуртка зьяўляюцца члены—закладчыкі ў ліку ня менш 5 асоб.

§ 4. Кожны член гуртка павінен весьці актыўную працу па выкананьні пастаўленых гуртком заданьняў і ажыцьцяўляць усе пастановы агульнага сходу і праўленьня.

§ 5. Кожны член гуртка зьяўляецца членам раённага таварыства краязнаўства.

§ 6. Сьпіс членаў гуртка ў 2 экз. дастаўляецца ў Раённы Выканаўчы Камітэт, у якім гурток зарэгістраваны.

§ 7. Член гуртка можа быць выключан са складу гуртка па сваёй уласнай заяве аб гэтым, або толькі па пастанове агульнага сходу, пры гэтым прычынай выключэньня ў гэтым выпадку можа быць

учынак крымінальнага характару, альбо такі, які падрывае аўтарытэт гуртка.

*Увага.* Выключэньне са складу гуртка зацьвярджаецца раённай краязнаўчай канфэрэнцыяй.

## III. Сродкі гуртка.

§ 8. Сродкі гуртка складаюцца:

а) з членскіх узносаў і афяраваньняў;

б) з субсыдый дзяржаўных і грамадзкіх установ, аднаразовых альбо пастаянных;

в) з прыбыткаў ад продажу краязнаўчых выданьняў;

г) са збору за ўваход на лекцыі, выстаўкі, вечарыны і г. д.

*Увага.* Велічыня членскіх узносаў вызначаецца раённай краязнаўчай канфэрэнцыяй, пры гэтым агульны сход гуртка можа звальняць ад выплаты членскіх узносаў тых членаў, якія ня могуць заплаціць іх.

*Увага* 2. Члены гуртка, якія не заплацілі ў свой час вызначаных членскіх узносаў, лічацца выбыўшымі з ліку членаў гуртка. Але яны зноў уваходзяць у гурток пасьля ўнясеньня належных узносаў бяз новага абраньня.

*Увага* 3. Усе сродкі застаюцца ў гуртку апрача часткі членскіх узносаў—ня вышэй 10% іх, якія перадаюцца раённаму таварыству краязнаўства.

§ 9. Сродкі гуртка выдаткоўваюцца праўленьнем гуртка. Справаздачы аб выдатках, разгледжаныя і зацьверджаныя агульным сходам гуртка, перадаюцца ў тую ўстанову, з якой атрыманы грошы, а копія іх захоўваецца ў справах гуртка.

## IV. Агульны сход.

§ 10. Агульны сход гуртка зьбіраецца ня менш, як адзін раз у 2 месяцы. Сходы гуртка склікаюцца праўленьнем з папярэднім паведамленьнем бліжэйшага сельсавету за 3 дні да сходу. Справы на агульным сходзе вырашаюцца простаю большасьцю галасоў.

§ 11. Агульны сход:

а) прымае новых членаў гуртка;

б) выбірае членаў праўленьня і рэвізійнай камісіі;

в) зацьвярджае плян працы, узгоднены з праўленьнем раённага таварыства краязнаўства;

г) заслухоўвае справаздачы;

д) заслухоўвае даклады адпаведна сваім мэтам і заданьням;

е) зацьвярджае грашовыя выдаткі і пастановы рэвізійнае камісіі;

ж) абгаварвае праэкты аб зьменах у статуце.

§ 12. Агульны сход лічыцца правамоцным, калі прысутнічае ня менш $^1/_3$ членаў гуртка.

## V. Праўленьне гуртка.

§ 13. Праўленьне гуртка выбіраецца агульным сходам гуртка тэрмінам на адзін год у ліку 3 асоб і 1 кандыдата, якія са свайго складу вылучаюць старшыню, намесьніка (ён—жа скарбнік) і сэкратара.

*Увага* 1. Перавыбары праўленьня могуць быць зроблены і раней вызначанага тэрміну, калі аб гэтым падасьць заяву 1/3 членаў складу гуртка.

*Увага* 2. Аб складзе праўленьня і аб усіх зьменах у ім паведамляецца раённым выканаўчым камітэтам.

§ 14. Праўленьне гуртка:
а) кіруе дзейнасьцю гуртка і яго членаў;
б) дае даведкі і тлумачэньні па пытаньнях краязнаўства і вывучэньня свае тэрыторыі;
в) дапамагае членам гуртка ў іх працы;
г) рэдагуе лістоўкі, альбо часопісы і іншыя матар'ялы краязнаўчага зьместу, калі такія будуць выдавацца гуртком;
д) захоўвае краязнаўчыя матар'ялы альбо перадае для апрацоўкі;
е) робіць справаздачу аб сваёй дзейнасьці агульнаму сходу;
ж) вядзе сьпіс членаў гуртка з адзнакаю дзейнасьці кожнага;
з) зьяўляецца прадстаўніком гуртка ва ўсіх яго справах;
і) вядзе ад імя гуртка перапіску;
к) ажыцьцяўляе пастановы агульнага сходу;
л) сочыць за выкананьнем ускладзеных на членаў гуртка абавязкаў;
м) зьбірае і выдаткоўвае грашовыя сродкі гуртка ў вызначаным агульным сходам кірунку;
н) адказвае за кірунак і вынікі працы гуртка.

## VI. Рэвізійная камісія.

§ 15. Рэвізійная Камісія выбіраецца агульным сходам гуртка ў ліку 3-х асоб адначасна з выбарам праўленьня.

§ 16. Рэвізійная Камісія сочыць за выкананьнем ускладзеных на праўленьне абавязкаў, за правільным выдаткаваньнем грашовых сродкаў, разглядае скаргі на дзейнасьць праўленьня і справаздачу аб сваёй працы дае агульнаму сходу гуртка.

## VII. Ліквідацыя гуртка.

§ 17. Гурток можа быць ліквідаваны як загадам урадавых устаноў, так і пастановай раённай краязнаўчай канфэрэнцыі або агульнага сходу самога гуртка.

§ 18. У выпадку ліквідацыі гуртка праўленьне падае аб гэтым даклад праўленьню раённага таварыства краязнаўства. Уся маемасьць гуртка пераходзіць пад загад раённага таварыства краязнаўства.

*Увага да статуту.* У выпадку, калі раённае таварыства краязнаўства не функцыянуе да часу адчыненьня яго п. ж. § 2 і § 18 адносяцца да акруговага таварыства краязнаўства; п. г. § 2, § 5, увага да § 7, увага 3-я да § 8 і п. „в“ § 11 застаюцца нядзейнымі; увага 1-я да § 8 падлягае вырашэньню агульным сходам; сказанае ў § 17: „так і пастановай раённай краязнаўчай канфэрэнцыі“ застаецца нядзейным.

Закладчыкі (подпісы)

---

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### АБ ПАРУШЭНЬНЯХ ПА ТЭХНІЦЫ БЯСЬПЕЧНАСЬЦІ І ПРАМЫСЛОВАЙ САНІТАРЫІ, ЗА ЯКІЯ НАЙМАЛЬНІКІ МОГУЦЬ ПРЫЦЯГВАЦЦА ДА АДКАЗНАСЬЦІ Ў АДМІНІСТРАЦЫЙНЫМ ПАРАДКУ.

На падставе п. „д“ арт. 148 Код. Зак. аб Працы і ў дадатак да пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР за 23/I-1925 году аб законах і загадах па працы, за парушэньне якіх наймальнікі могуць прыцягвацца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку (Збор Законаў і Загадаў БССР за 1925 г. № 17, арт. 153), Народны Камісарыят Працы БССР па згодзе з Вышэйшым Саветам Народнае Гаспадаркі БССР і Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў БССР пастанаўляе:

1. Зацьвердзіць далучаны сьпіс парушэньняў па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, за якія наймальнікі могуць прыцягвацца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку.

2. Прыцягненьне наймальніка да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку робіцца ў выпадку невыкананьня апошнім у тэрмін загадаў інспэкцыі працы аб зьнішчэньні парушэньняў правіл па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі.

3. Калі супроць патрабаваньняў інспэкцыі працы аб зьнішчэньні парушэньняў па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі з боку адміністрацыі прадпрыемстваў будзе зроблена абгрунтаванае пісьмовае супярэчаньне аб немагчымасьці выкананьня патрабаваньняў інструкцыі і калі ажыцьцяўленьне іх зьвязана з вялікімі выдаткамі—пытаньне аб зьнішчэньні парушэньняў вырашаецца Народным Камісарыятам Працы і Вышэйшым Саветам Народнае Гаспадаркі БССР. У такіх выпадках, да канчатковага вырашэньня пытаньня, адміністрацыйныя спагнаньні накладацца ня могуць. Паказаныя супярэчаньні па сутнасьці патрабаваньняў інспэкцыі працы адміністрацыя прадпрыемства павінна адзначыць у рэвізійным акце абсьледаваньня інспэкцыяй працы прадпрыемства. Абгрунтаванае супярэчаньне з патрэбнымі матар'яламі павінна быць накіравана ў Народны Камісарыят Працы і Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі БССР не пазьней 2-х тыдняў з дня складаньня акту абсьледаваньня прадпрыемства.

4. Гэтая пастанова ўваходзіць ў дзейнасьць на абшары БССР з 1 сьнежня 1926 года.

### Пералік парушэньняў па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, за якія наймальнікі могуць прыцягвацца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку.

I. Агульная абавязковая пастанова Народнага Камісарыяту Працы СССР за 29 студзеня 1926 г. № 31/309 „аб пабудаваньні і ўтрыманьні прамысловых прадпрыемстваў (Известия Н. К. Труда СССР 1926 г. № 8).

1. Адсутнасьць пэрыядычнага прыбіраньня двара, рабочых памяшканьняў і майстэрань (арт. арт. 8, 36 і 38).

2. Неасьвятленьне фабрычнага двара ў часе начное працы (арт. 12).

3. Адсутнасьць агароджы люкаў і пераходаў (арт. 22).

4. Адсутнасьць пераваранай вады для піцьця рабочым (арт. 40).

5. Нявыдача рабочым забясьпечных і спэцыяльных прыладаў (акуляры, маскі, рэсьпіратары і г. д.) пры рабоце, дзе гэтыя прылады патрэбны і вымагаюцца па нормах Нар. Кам. Працы (арт. 53 і 54).

6. Адсутнасьць умывальнікаў і інш. прыладаў для мыцьця рук рабочых у памяшканьнях, маючых зручную сувязь з майстэрнямі, або ў самых майстэрнях (арт. 80).

7. Адсутнасьць нагляду за спраўным станам праветрываньня абагравальных і асьвятляльных прыладаў (арт. 37).

II. Правілы супроцьпажарнай аховы прамысловых прадпрыемстваў, зацьверджаныя Усесаюзным Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў і Народным Камісарыятам Унутраных Спраў 24 жніўня 1921 г. (Збор абавяз. пастаноў і правіл па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, выпуск III).

1. Нявывешваньне ў прадпрыемствах на відным месцы дакладна вызначаных зьвестак аб спосабе вызаву пажарнай каманды, там, дзе няма фабрычнае каманды (арт. 5).

2. Адсутнасьць паказчыкаў разьмяшчэньня знадворных пажарных кранаў, дзе такія маюцца (арт. 13).

3. Адсутнасьць пры ўнутраных пажарных кранах рукавоў са ствалом (брандсбойтаў) (арт. 19).

4. Адсутнасьць кнігі запісаў пажарных аглядаў, уваг, патрабаваньняў і г. д. (арт. 5).

5. Адсутнасьць дазволу пажарнай інспэкцыі на пабудаваньне абаграваньня фабрычных будынкаў пераноснымі пячамі (арт. 26).

III. Правілы пабудаваньня, спробы і эксплёатацыі пад'ёмных мэханізмаў і дапаможных пры іх прыладаў, зацьвер. НКП 11 мая 1922 г. (Збор абавязковых пастаноў і правіл па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. III).

1. Адсутнасьць у пад'ёмнага мэханізму шнуравое кнігі (арт. 25).

2. Адсутнасьць у пад'ёмнага мэханізму адзначэньня найбольшай дазволенай рабочай нагрузкі (арт. 3).

3. Адсутнасьць парэнчаў з суцэльнай зашыўкай зьнізу каля пляцовак, балконаў і будак, абслугоўваючых пад'ёмные мэханізмы, а таксама каля ўсходаў да іх (арт. 17).

4. Дапушчэньне да працы з пад'ёмнымі мэханізмамі недалеткаў, за выключэньнем самавольных работ недалёткаў (арт. 30).

5. Дапушчэньне падняцьця цяжару, перавышаючага пад'ёмную сілу мэханізму, за выключэньнем выпадкаў самавольнага парушэньня гэтага правіла самімі рабочымі бяз ведама адміністрацыі (арт. 34).

6. Несваячаснае паведамленьне агэнта тэхнічнага нагляду аб наступленьні тэрміну паўторнай спробы пад'ёмнага мэханізму. Адказнасьць зьнімаецца ў выпадку няяўкі рэвізуючай асобы. Уласьнік у такім выпадку працуе далей пад сваю адказнасьць (арт. 29).

IV. Правілы пабудаваньня, спробы і эксплёатацыі пад'ёмнікаў, ліфтаў, пад'ёмных машын, зацьвер. Народным Камісарыятам Працы СССР 24 ліпеня 1923 г. (Збор абавязк. пастаноў па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. V).

1. Адсутнасьць на дзьвярах шахты надпісу з паказаньнем характару пад'ёмніка і яго пад'ёмнай сілы, а для таварнага пад'ёмніка апрача таго адсутнасьць надпісу аб забароне падняцьця на ім людзей (арт. 9).

2. Адсутнасьць у пад'ёмніка шнуравое кнігі (арт. 37).

V. Правілы пабудаваньня, устаноўкі і агляду парапрыёмнікаў і інш. прыбораў і апаратаў, працуючых пад вышэйшым за атмасфэрны ціскам, зацьвердж. Народным Камісарыятам Працы СССР 24 ліпеня 1923 г. (Збор абавязк. пастаноў па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. V).

1. Адсутнасьць адпаведнага дазволу для працуючага прыбору

або апарату, падпадаючага пад правілы аб прыладах, якія дзейнічаюць пад націскам (арт. 12).

2. Адсутнасьць у дзейнічаючага прыбору або апарату шнуравое кнігі (арт. 29).

3. Адсутнасьць на цыфэрбляце маномэтру дзейнічаючай прылады або апарату чырвонай лініі, адпавядаючай найвышэйшаму дазволенаму націску ў апараце (п. „в“ арт. 7).

4. Карыстаньне апаратам пасьля частковага рамонту яго без папярэдняй гідраўлічнай спробы і ўнутранага агляду яго (арт. 26 і 28).

VI. Правілы пабудаваньня, устаноўкі, утрыманьня і агляду сталых і рухомых паравых катлоў, зацьвер. НКП СССР 14 лістапада 1923 г. (Збор пастаноў па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. V).

1. Адсутнасьць для дзейнічаючага сталага або рухомага катла належнага дазволу (арт. 35).

2. Адсутнасьць у дзейнічаючага катла шнуравое кнігі (арт. 34).

3. Даручэньне дагляду за паравым катлом рабочаму маладзей 20 гадоў (арт. 42).

4. Адсутнасьць на цыфэрбляце маномэтру дзейнічаючага катла чырвонае лініі, адпавядаючай дазволенаму націску ў катле, атсутнасьць такое самае лініі на маномэтры дзейнічаючай паравой машыны (арт. 8).

5. Адсутнасьць у дзейнічаючага катла паказаньня найніжэйшага дазваляемага ўзроўню вады (арт. 10).

6. Адсутнасьць у кацельным памяшканьні супроцьпажарных сродкаў (п. „е“ арт. 15).

Устаноўка ў кацельным памяшканьні прыладаў і апаратаў і правядзеньне работ, якія ня маюць непасрэдных адносін да рамонту паравых катлоў і памяшканьня (п. „о“арт. 15).

7. Непаведамленьне тэхнічнай інспэкцыі аб тэрміне ўнутранага агляду і гідраўлічнай спробы катла.

Калі тэхнічны інспэктар ня зьявіцца ў 3-х дзенны тэрмін, пакараньне зьнімаецца і наймальнік працуе ў парадку, паказаным у арт. 32.

8. Прыцягненьне качагара ў рабочы час да выкананьня абавязкаў, якія да яго не датычацца (арт. 45).

9. Непаведамленьне інспэкцыі нагляду аб папсаваньні катла пры стыхійным няшчасьці (пажар, паводка, разрыў параправаднікоў і г. д. (арт. 47).

10. Адсутнасьць забясьпечнікаў над вадамерным шклом (арт. 10)

VII. Правілы пабудаваньня агароджы і абслугоўваньня трансмісій, зацьвер. 1 ліпеня 1920 г. (Збор абавяз. пастаноў і правіл па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. II).

1. Адсутнасьць агараджэньняў пасаў, канатаў, ланцугоў, валаў і г. д., якія праходзяць праз падлогу, на вышыні 2-х мэтраў ад падлогі і суцэльнае агароджы дзірак у падлозе і г. д.

2. Адсутнасьць агароджы часьцей прывадных і перадатачных валаў і мэханізмаў, якія знаходзяцца ніжэй 2-х мэтраў над падлогаю, напрыклад: зубцовых колаў, шківаў, муфт, фрыкцыйных дыскаў і г. д., а таксама саміх валаў (арт. 6); адсутнасьць агароджы зубцоў у зубчатых зачапленьняў, як спераду, так і збоку (арт. 20).

3. Адсутнасьць над нізка разьмешчанымі трансмісійнымі валамі пераходаў і насьцілаў, якія-б закрывалі як самыя валы, так і ўсе часьці на валах, якія круцяцца. Адсутнасьць ля насьцілаў парэнчаў з бакоў і суцэльнае зашыўкі зьнізу (арт. 7).

4. Адсутнасьць агароджы простападных або нахіленых трансмісійных валаў на вышыні 2-х мэтраў ад падлогі (арт. 8).

5. Адсутнасьць агароджы канца паземнага вала, які выходзіць за падшыпнік, або за сьцяну будынка (арт. 9).

6. Адсутнасьць агароджы на вышыні 2-х мэтраў ад падлогі паземных пасаў шырынёю больш за 50 мм., а таксама пасаў, калі яны рухаюцца з хуткасьцью больш 5 мэтраў у сэкунду, незалежна ад іх шырыні (арт. 12).

7. Адсутнасьць спэцыяльных пераносных усходаў для абслугоўваньня трансмісій (арт. 26).

8. Дазвол абслугоўваць трансмісіі недалеткамі да 18 год, за выключэньнем самавольнага парушэньня гэтых правіл рабочымі (арт. 29).

VIII. Правілы ўстаноўкі, агароджы і абслугоўваньня машын і рухавікоў, зацьв. НКП 22 ліпеня 1920 г. (Збор абавязк. пастаноў і правіл па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. II).

1. Неагароджа парэнчамі з суцэльнаю зашыўкаю зьнізу ям, паглыбленьняў, дзірак у падлозе, пераходаў і мосьцікаў, якія знаходзяцца ў памяшканьні рухавікаў (арт. 5).

2. Нявывешваньне ў памяшканьні рухавікоў інструкцыі па абслугоўваньні іх (арт. 12).

3. Адсутнасьць у памяшканьнях, дзе знаходзяцца рухавікі, здавальняючай чыстаты (арт. 3).

4. Адсутнасьць агароджы прыступных рухаючыхся часьцей рухавікоў (арт. 9).

IX. Правілы аб способах забясьпекі работ у чыгуннай і меднаіцейнай вытворчасьці (Абавязковая пастанова Народнага Комісарыяту Працы СССР за 13/V—1926 г. (Известия Народного Камиссариата Труда СССР 1926 г., № 19—20).

1. Дазвол якіх-небудзь пабочных работ каля вагранкі або адбівальнай печы ў час работы пячэй (арт. 29).

2. Невядзеньне нумэрацыі і незапісваньне ў асобную кнігу ўсіх ланцугоў і каромыслаў, ужываемых у гісэрні, з адзначэньнем часу пуску іх у работу, пад'ёмнае сілы і часу агляду ланцугоў і кранаў (арт. 43).

3. Адсутнасьць кажухоў пры наждачных колах і варштатах, ужываемых для ачысткі і апрацоўкі адлівак (арт. 58).

4. Нявыдача рабочым забясьпечных акуляраў і рэсьпіратараў па нормах Народнага Камісарыяту Працы (арт. 62).

5. Адсутнасьць у зачыненых рэзэрвуарах пераваранай вады (арт. 11).

X. Правілы аб способах забясьпекі работ у кузьнях (Пастанова Народнага Камісарыяту Працы СССР за 27/II—1926 г. (Известия Н. К. Труда СССР за 1926 г. № 12).

1. Адсутнасьць прыладаў для выцягу прадуктаў гарэньня способам штучнага або натуральнага праветрываньня (арт. 3).

2. Дазвол пускаць у работу і працаваць на малатох і прэсах асобам, якія да сталай працы пры іх ня прызначаны, за выключэньнем выпадкаў самавольнага парушэньня гэтага правіла рабочымі, наперакор распараджэньням адміністрацыі (арт. 53—55).

3. Адсутнасьць забясьпечных акуляраў для аховы вачэй пры аўтагэннай зварцы (арт. 56).

XI. Правілы аб способах забясьпекі работ у вытворчасьці па халоднай апрацоўцы мэталаў рэзаньнем (Абавяз. пастанова Народнага

Камісарыяту Працы СССР за 20/II—1926 г. (Известия Народн. Комис. Труда СССР за 1926 г., № 9).

1. Дазвол працаваць на варштатах асобам, якія для сталай работы пры іх ня прызначаны, або якія ня маюць права працаваць на іх, за выключэньнем выпадкаў самавольнага парушэньня гэтага правіла рабочымі, наперакор распараджэньням адміністрацыі (арт. 2).

2. Дазвол перасованьня пасаў па ступенькавых шківах пры зьмяненьні хуткасьці ў час руху варштату без дапамогі спэцыяльных прыладаў, за выключэньнем выпадкаў самавольнага парушэньня рабочымі гэтага правіла, наперакор распараджэньням адміністрацыі (арт. 71).

3. Адсутнасьць забясьпечнай рамкі для аховы вачэй, а пры адсутнасьці рамкі—нявыдача забясьпечных акуляраў для работы на варштатах, работа на якіх зьвязана з выдзяленьнем асколкаў, стружак або іскр (арт. 13).

4. Адсутнасьць агароджы ям у падлозе, якія маюцца пад або перад супортамі варштатаў (арт. 18).

5. Нявыдача забясьпечных акуляраў рабочым пры апрацоўцы прадметаў з крохкага або жорсткага мэталу пры вялікай хуткасьці рэзаньня (арт. 33).

6. Адсутнасьць кажухоў (з жалеза або сталі), засланяючых нерабочую частку тачыльных каменьняў, кругоў, тачыл і шліфавальных варштатаў (арт. 48).

7. Адсутнасьць агароджы высунутых прадметаў на круцячыхся часьцях мэтала-апрацовачных варштатаў (арт. 11).

8. Адсутнасьць дасканальнай ачысткі майстэрань ад мэталічнага сьмецьця і канцоў (арт. 15).

9. Адсутнасьць шчотак для вымятаньня стружак з варштатаў (арт. 4).

XII. Правілы аб спосабах забясьпекі работ у кацельнай і меднакацельнай вытворчасьці (Паст. Народнага Камісарыяту Працы СССР за 14/I—1926 г. (Известия Н. К. Труда за 1926 г. № 4-5).

1. Адсутнасьць у аддзяленьнях майстэрань жалезных скрынак спэцыяльна прызначаных для складваньня брудных ануч, паклі і баваўняных канцоў і адсутнасьць на гэтых скрынках надпісу: „Для брудных ануч, паклі і баваўняных канцоў“ (арт. 11).

2. Адсутнасьць моцнага рыштаваньня для зборкі катлоў (арт. 21).

3. Адсутнасьць пераносных драбін (арт. 22).

4. Нявыдача забясьпечных акуляраў з цьмяным шклом для аховы вачэй ад моцнага сьвету пры зварачных работах, пры напайцы на трубы медных наканечнікаў і фланцаў (арт. 55).

5. Адсутнасьць ля горнаў прылад штучных або натуральных для выдаленьня прадуктаў гарэньня і дыму (арт. 13).

XIII. Правілы аб спосабах забясьпекі работ у вытворчасьці па мэханічнай апрацоўцы драўніны, зацьверджаныя Народным Камісарыятам Працы 10/V—1920 г. (Зб. абавязк. пастаноў. і правіл па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. II).

1. Дазваленьне работы на варштатах асобам, ня прызначаным для сталай работы пры іх, або ня маючым права працаваць на іх, за выключэньнем выпадкаў самавольнага парушэньня гэтага правіла рабочымі, наперакор распараджэньням адміністрацыі (арт. 2).

2. Дазваленьне наліваньня ў лямпы газы або масла ў рабочым памяшканьні майстэрань, за выключэньнем выпадкаў самавольнага

парушэньня гэтага правіла рабочымі, наперакор распараджэньням адміністрацыі (арт. 13).

3. Адсутнасьць агароджы дзірак у падлозе, зробленых для шатуна лесапільнай рамы з ніжнім прыводам (арт. 62).

XIV. Абавязковая пастанова аб спосабах забясьпекі работ на баваўняных фабрыках, зацьвер. Народным Камісарыятам Працы за 26 лютага 1919 г. (Збор абавязковых пастаноў і правіл па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. I).

1. Дазваленьне чысткі пры ходзе прыводаў і ўсякіх рухаючыхся часьцей машыны рукамі пры дапамозе анучак і канцоў, за выключэньнем выпадкаў самавольнай чысткі рабочымі машын, наперакор распараджэньням адміністрацыі (арт. 6).

2. Адсутнасьць агароджы дзірак у падлозе сартавальнага аддзяленьня для спуску пакоў (арт. 10).

3. Адсутнасьць агароджы пагонных колаў (карэткі сельфактараў), адхіляючай магчымасьць правалу рабочага паміж пагонам і колам. арт. 111).

4. Дапушчэньне ў скляпы трапальнага аддзяленьня для ачысткі асоб, малодшых за 18 год, за выключэньнем выпадкаў самавольнага парушэньня паказанага правіла рабочым бяз ведама адміністрацыі (арт. 21).

5. Адсутнасьць асобнай вопраткі для рабочых, занятых па ачыстцы скляпоў (арт. 20).

6. Дазвол надзяваць і зьнімаць прывадныя пасы ватэрных машын рабочымі, якія ня стала прызначаны для гэтай работы, за выключэньнем самавольнага надзяваньня і зьніманьня бяз ведама адміністрацыі (арт. 105).

XV. Правілы аб спосабах забясьпекі работ у мэханічна-ткацкай вытворчасьці (Абав. пастанова Народнага Камісарыяту Працы СССР за 8 студзеня 1926 г. (Известия Н. К. Труда за 1926 г. № 3).

1. Адсутнасьць бясьпечных прыладаў супроць выкіданьня чаўнака з ткацкіх варштатаў (арт. 27).

2. Дазвол нагрузкі тармазных прыладаў выпадковымі прадметамі замест грузавых гір (арт. 32).

3. Дазвол класьці ў час работы варштатаў пад іх і пад машыны пабочныя прадметы, ня зьвязаныя з вытворчасьцю, а таксама і патрэбныя для вытворчасьці, як напрыклад: шчоткі, анучкі і інш. (арт. 7).

XVI. Абавязковая пастанова па пабудаваньню і ўтрыманьню фабрык папяровай прамысловасьці (Зацьверджана Народным Камісарыятам Працы СССР ў лістападзе 1922 году (Збор абавязковых пастаноў і правіл па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. IV).

1. Адсутнасьць у аддзяленьнях фабрыкі запаснога асьвятленьня (п. „б“ арт. 34).

2. Адсутнасьць жорсткіх шчотак з доўгімі ручкамі для ачысткі сукан або шабераў ад папяровых абрыўкаў або папяровага пылу (арт. 51).

3. Адсутнасьць асобных прасовак (гладзілак) для прасаваньня складак пры работах на накатных варштатах (накатка бабін) і кароткіх палак для адкіданьня істужак. Дазвол замены контрагрузаў выпадковымі цяжкімі прадметамі (арт. 56).

4. Нявыдача рабочым у папяровай вытворчасьці за кошт прадпрыемства забясьпечных прыладаў па нормах Народнага Камісарыяту Працы (арт. 58).

5. Хаваньне анучак у рабочых памяшканьнях за выключэньнем пераходнага астатку ня больш аднадзённай патрэбы (арт. 6).

6. Адсутнасьць у аддзяленьнях скрынь і куфэркаў для збору рызьзя (арт. 22).

7. Адсутнасьць у аддзяленьнях рабочых памяшканьняў плявальніц (арт. 24).

8. Дазвол купацца ў басэйнах, прызначаных для вытворчых мэтадаў (арт. 25).

XVII. Абавязковая пастанова Народнага Камісарыяту Працы СССР за 18/VIII—1926 г. аб пабудаваньні і ўтрыманьні гарбарняў (Известия Н. К. Труда СССР за 1926 г. № 33).

1. Адсутнасьць пэрыядычнага прыбіраньня двара і рабочых памяшканьняў (арт. 5 і 13).

2. Адсутнасьць кляйма на скурах або адпаведнага дакумэнту, які сьведчыць аб вэтэрынарным і санітарным аглядзе іх (арт. 25).

3. Адсутнасьць мясцовых выцяжных прыладаў пры дубленьні скур хромавымі солямі і пры дапраўцы і разьвядзеньні апошніх (арт. 28).

4. Адсутнасьць пакрышак ва ўсіх чанах, як дзеючых, так і нядзеючых, за выключэньнем чанаў, якія нагружаюцца або выгружаюцца і знаходзяцца ў памяшканьні адмочнага, зольнага, мякчыльнага, дубільнага і фарбавальнага аддзяленьняў (арт. 32).

5. Ужываньне для зьняцьця воласу спосабу гнаеньня скур у мёртвых або гнілых студнях (арт. 36).

6. Незмачэньне або не апырскваньне вадою кары перад засыпкаю ёю скур у дубільных чанах (арт. 38).

7. Адсутнасьць спэцыяльнай вопраткі, выдача яе рабочым без пэрыядычнага мыцьця яе (арт. 19-20).

8. Дапушчэньне звалкі сьмецьця каля заводаў, а не ў асобна для гэтай мэты зробленыя скрыні з шчыльна зачыняючыміся крышкамі (арт. 21).

9. Нявыконваньне правіл па ачыстцы зольнікаў глыбінёю звыш 3 аршын праз няпрывязваньне да поясу рабочага вяроўкі для больш хуткага выцягваньня яго з зольніка пры выніканьні небясьпекі задушэньня газамі (арт. 39).

XVIII. Абавязковая пастанова аб пабудаваньні і ўтрыманьні прадпрыемстваў кравецкай прамысловасьці, зацьвер. Народным Камісарыятам Працы 17/V—1922 г. (Збор пастаноў па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. III).

1. Нядача 10-х хвіліннага перапынку пасьля кожнай гадзіны работы ў калацільных аддзяленьнях (арт. 2).

2. Дазваленьне скарыстаньня рабочага памяшканьня для жыльля, начлегу або для прыняцьця яды (арт. 10).

XIX. Абавязковая пастанова аб пабудаваньні і ўтрыманьні шчацінных і шчотачных фабрык і майстэрань, зацьвер. УЦСПС 20 лютага 1922 г. (Збор пастаноў і правіл па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. III).

1. Адсутнасьць памяшканьня для мыцьця і пераадзяваньня (арт. 14).

2. Нявыдача рабочым акуляраў і рэсьпіратараў, згодна норм Н.К. Працы (арт. 15).

3. Дапушчэньне да апрацоўкі воласу без папярэдняй яго дэзынфэкцыі і дапушчэньне да апрацоўкі прывезенай партыі воласу без кляйма і пасьведчаньняў аб зробленай дэзынфэкцыі яго (арт. 2 і 3).

XX. Абавязковая пастанова аб парадку пабудаваньня і ўтрыманьня кішэчных заводаў, зацьверджаная Н. К. Працы 13/IX 1923 г. за № 333 (796). (Збор абавязков. пастаноў і правіл па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. V).

1. Выдача рабочым для апрацоўкі кішак, не ачышчаных ад калу (арт. 2).

2. Адсутнасьць на заводзе вешалак ў асобна адгароджаным памяшканьні для хаваньня вопраткі (арт. 5), а таксама для яды і адпачынку (арт. 6).

3. Адсутнасьць пэрыядычнага прыбіраньня двара і рабочых памяшканьняў (арт. 7 і 16).

4. Нявыконваньне патрабаваньняў аб сталох (арт. 13).

5. Ужываньне надзіманьня кішак ротам (арт. 14),

XXI. Абавязковая пастанова аб пабудаваньні і ўтрыманьні табачных фабрык, зацьверджаная Народным Камісарыятам Працы 18 кастрычніка 1922 г. (Збор абавязак, пастаноў і правіл па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. IV).

1. Адсутнасьць мэталічных кажухоў для тачыльных колаў (арт. 22).

2. Нявыдача рэсьпіратараў рабочым пры выграбаньні пылу з зборнікаў (арт. 25).

3. Незахаваньне правіл аб штодзённым падмятаньні падлогі мокрым спосабам і аб штотыднёвым прыбіраньні памяшканьняў (арт. 28—29).

4. Нявыдача рабочым забясьпечных прылад згодна норм Н. К. Працы (арт. 3).

5. Дапушчэньне хаваньня мяшкоў з пылам у рабочых памяшканьнях, за выключэньнем аднадзённага рабочага астатку (арт. 26).

6. Дапушчэньне хаваньня сырызны і паўфабрыкатаў у рабочых памяшканьнях звыш нормы, патрэбнай для 2-х дзённай апрацоўкі, (арт. 30).

XXII. Абавязковая пастанова аб пабудаваньні і ўтрыманьні махорачных фабрык, зацьвердж. Н. К. Працы СССР 22/V—1924 г., № 235/398. (Известия Н. К. Труда СССР за 1924 г. № 23).

1. Адсутнасьць жалезных кажухоў ля тачыльных колаў (арт. 31).

2. Нявыдача рэсьпіратараў пры выграбаньні пылу з зборнікаў (арт. 33).

3. Адсутнасьць выстарчальнай колькасьці прылад, лавак і табурэтаў для сядзеньня (арт. 25).

4. Адсутнасьць памяшканьняў або шафаў для хаваньня хатняе вопраткі і ўбраньня рабочых (арт. 27).

5. Адсутнасьць плявальніц ў памяшканьні (арт. 28).

XXIII. Абавязковая пастанова аб пабудаваньні і ўтрыманьні друкарань і літаграфій, зацьвер. Н. К. Працы СССР 19 мая 1924 г., № 230/305. (Известия Н. К. Труда за 1924 г. № 22).

1. Дапушчэньне з ведама адміністрацыі падлеткаў да прыбіраньня памяшканьня (арт. 26).

2. Адсутнасьць рукамойнікаў, мыла і рушнікоў (арт. 28).

3. Пуск у работу машыны раней ўстаноўкі на месца ўсяе агароджы і забясьпечных прылад (арт. 39).

4. Невыкананьне правіл па ачыстцы наборных кас ад валавянага пылу (арт. 24).

XXIV. Абавязковая пастанова Н. К. Працы СССР за 4/V—1926 г. аб спосабах забясьпекі пры будаўнічых работах (Известия Н. К. Труда СССР 1926 г. № 18).

1. Адсутнасьць каля прызначанага да разборкі будынку загародак, іменна: пераносных застаў, рагатак і г. д. (п. „а“ арт. 71).

2. Дазвол разьбіраньня даху будынку рабочымі бяз прывязваньня іх вяроўкамі да крокваў, камінoў і г. д., за выключэньнем выпадкаў самавольнага парушэньня рабочымі гэтага правіла, наперакор распараджэньню адміністрацыі (арт. 76).

3. Дазвол спусканьня балек і бярвеньняў пры разборцы будынку бяз помачы страмянак і да г. п. прыладаў, забясьпечваючых ад няшчасных выпадкаў, за выключэньнем выпадкаў самавольнага парушэньня рабочымі гэтага правіла, наперакор распараджэньням адміністрацыі (арт. 77).

4. Адсутнасьць агароджы ля ям, якія застаюцца пры разборцы будынкаў (арт. 85)

5. Дазвол складаньня цэглы на паверхні сьнегу, не разгарнуўшы сьнегу да зямлі, складаньня бочак звыш 2-х радоў і ня прыняцьце мер супроць раскочваньня іх, а таксама і інш. матар'ялаў, за выключэньнем выпадкаў самавольнага парушэньня гэтага правіла рабочымі, наперакор распараджэньням адміністрацыі (арт. 1).

XXV. Абавязковая пастанова аб ахове працы на тарфяных распрацоўках, зацьвер. Н. К. Працы 2/XI—1922 г. (Збор абавязковых пастаноў і правіл па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. V).

1. Адсутнасьць на мясцох работы пераваранай вады (арт. 2).

2. Адсутнасьць у жылых памяшканьнях адчыняючыхся рам або адкідных фрамуг (арт. 11).

3. Адсутнасьць абагравальных прыбораў у жылых памяшканьнях (арт. 12).

4. Адсутнасьць вады да піцьця ў жылых памяшканьнях і сталовых (арт. 19).

5. Адсутцасьць памыйных ям пры інтэрнатах (арт. 21).

6. Адсутнасьць у жылых памяшканьнях рукамойнікаў (арт. 24).

7. Адсутнасьць месца для сушкі мокрай спэц-вопраткі і мыцьця яе (арт. 25).

8. Адсутнасьць лазні для рабочых (арт. 22).

9. Дазвол агульных нар для спаньня ў інтэрнатах (арт. 13).

XXVI. Абавязковая пастанова па ахове працы сельска-гаспадарчых рабочых, зацьвер. Н. К. Працы 30/VI—1922 г. (Збор абавязковых пастаноў і правіл па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. III).

1. Адсутнасьць фортак для праветрываньня жылых памяшканьняў (арт. 10)

2. Адсутнасьць у жылых памяшканьнях плявальніц і скрынак для сьмецьця (арт. 19).

3. Дапушчэньне падлеткаў да 18 год да кіраваньня паравымі машынамі, рухавікамі нутранога згараньня, сенакасілкамі, жаткамі, прываднымі сячкарнямі і карнярэзкамі, а таксама да работ ля барабана малатарань, за выключэньнем самавольных работ малалетніх (арт. 52).

4. Нявыдача рабочым пры малатарнях забясьпечных акуляр (арт.54)

5. Адсутнасьць агароджы пасу і шківа пры пасавай перадачы ад коннага прыводу або мэханічнага рухавіка (арт. 68).

XXVII. Правілы аб спосабах забясьпекі работ у вытворчасьцях з сернай, азотавай і саляной кісьлямі, зацьвер. Н. К. Працы 30/VIII—1922 г. (Збор абавязковых пастаноў і правіл па тэхніцы бясьпечнасьці і прамысловай санітарыі, вып. IV).

1. Дапушчэньне носкі рабочымі кісьляў на плячох, за выключэньнем выпадкаў самавольнай носкі рабочымі кісьляў на плячох, наперакор распараджэньням адміністрацыі (арт. 25).

2. Адсутнасьць спэцыяльных перасоўных прылад для перамяшчэньня кісьляў у бутлях (арт. 26).

3. Адсутнасьць затычкі бутляў, не дапускаючай выліваньня кісьляў у час пераноскі (арт. 28).

4. Адсутнасьць кошыкаў або скрынак для хаваньня бутляў з кісьлямі (арт. 29).

Народны Камісар Працы БССР **С. Ерафееў**.

Заг. Аддзелу Аховы Працы НКП **Н. Калінін**.

Пракурор па Працоўных Справах НКЮ БССР **Б. Глезераў**.

Узгоднена з
Вышэйшым Саветам Народнае Гаспадаркі БССР:
За Старшыню Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР **Б. Чаплінскі**.
Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў Беларусі:
Нам. Заг. АТЭ **З. Каган**.

25 лістапада 1926 г.
№ 14.

---

Зацьверджан Вышэйшым Саветам Народнай Гаспадаркі і Народным Камісарыятам Гандлю БССР 24 сьнежня 1926 году.

## 5. Тыповы дагавор на лесазагатоўкі на 1926/27 апэрацыйны год, складзены на падставе пастановы Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР па пратаколу за 1 лістапада 1926 г., № 39, п. 27.

Горад ........................ " ........................ дня 192 ........ году.
Ніжэйпадпісаныя ..................................................
..................................................
заключылі гэты дагавор у ніжэйнаступным:

I. Лесазагатоўчая арганізацыя ........................ прымае на сябе абавязаннасьць пастаўкі для лесаспажываючай арганізацыі ........................ лесаматар'ялаў і дроў у колькасьці, якая адпавядае кубатуры драўніны, прызначанай да водпуску ........................ па разьмеркаваньню 1926 году Цэнтральнай Гандлёвай Лясной Камісіяй у разьмеры ........................ куб. мэтраў будаўлянай і ........................ куб. мэтраў дравяной драўніны.

2. Лесазагатоўшчыкам ........................, у межах наказанага ў папярэднім пункце куб. зьместу будаўлянай драўніны,

пастаўляюцца па паказаньню лесаспажываючай арганізацыі тыя гатункі лесаматар'ялаў, якія адпавядаюць разьмерам і якасьці адпушчанага на гэты прадмет лесу ў данным Лясьніцтве. Пункты здачы лесаматар'ялаў і дроў, а таксама і месцы для іх вывазкі і ўкладкі павінны быць паказаны лесаспажываючай арганізацыяй.

*Увага.* Патрабуемыя Дар. Аддз. Кір. Кам. Гасп. НКУС і Аддз. Мясц. Транспарту Зах. Акругі гатункі і іх колькасьць павінны быць пастаўлены поўнасьцю, хоць-бы з іншых лясьніцтваў,—з пунктаў бліжэйшых да месца правядзеньня работ.

3. Лесазагатоўшчык ............................................., паводле пастановы Эканамічнае Нарады БССР за 1 лістапада 1926 г. п. 7, заключае дагавор з органамі ляснога Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Земляробства БССР на атрыманьне драўніны, якую распрацоўвае сваімі сродкамі і за свой рахунак.

4. За дастаўленыя па гэтаму дагавору лесаматар'ялы і дровы лесаспажываючая арганізацыя .............................. павінна заплаціць лесазагатоўшчыку ..............................кошт гэтых лесаматар'ялаў і дроў па аптовых цэнах, якія будуць для таго ўстаноўлены Народным Камісарыятам Гандлю БССР.

5. Частка кошту лесаматар'ялаў і дроў, адпаведная папеннай за іх плаце, аплачваецца лесаспажываючай арганізацыяй .................. .................. гатовымі грашыма або вэксалямі на ўсю суму на тэрміны, устаноўленыя тыповым дагаворам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР з загатоўшчыкамі на продаж лесу (зацьверджаны Эканамічнай Нарадай за 20 кастрычніка 1926 г.) з магучымі быць зьменамі, астатняя частка кошту выплачваецца ў наступныя тэрміны: 1) пры заключэньні гэтага дагавору—10%, 2) 1-га студзеня 1927 г. —10%, 3) 1 лютага—15%, 4) 1 сакавіка—20%, 5) 1 красавіка—20%, 6) 1 мая—15%, 7) выплату астатніх 10%, а таксама поўны разьлік па атрыманых лесаматар'ялах і дровах лесаспажываючая арганізацыя ........................ павінна зрабіць у працягу 7-мі дзён з дня перадачы ёй канчатковага рахунку з актамі здачы.

У выпадку здачы лесаматар'ялаў і дроў пад канец навігацыйнага пэрыяду—у жніўні і верасьні, вышэйпаказаныя плацяжы за красавік і май пераносяцца на жнівень і верасень месяцы. Пры ўстанаўленьні тэрмінаў здачы лесаматар'ялаў і дроў у летнія месяцы, або пры іх пераносе на будучую зіму, тэрміны плацяжоў адпаведна зьмяняюцца з умоваю старон.

6. Месцамі здачы сплаўляемых лесаматар'ялаў і дроў павінны быць рум або прыстань адпраўленьня або назначэньня, а для гужавых дроў і лесаматар'ялаў—склад прадпрыемства лесаспажываючай арганізацыі ..............................., або станцыі адпраўленьня ж. д. па згодзе старон.

7. Тэрміны здачы ўстанаўляюцца для лесаматар'ялаў і дроў, сплаўляемых у працягу пэрыяду з мая па верасень месяцы 1927 г. пры здачы прыстань назначэньня і красавік—пры здачы на руме адпраўленьня, а для гужавых—з студзеня па красавік месяц таго-ж году. Пры ўмове магчымасьці летняй возкі, лесазагатоўшчыку даецца права, на згодзе з лесаспажываючай арганізацыяй, даставіць у летні пэрыяд да 40% колькасьці дастаўляемых дроў. У працягу паказаных пэрыядаў дастаўкі лесаматар'ялаў і дроў пунктуальныя тэрміны здачы ўстанаўляюцца згодаю старон.

8. Аб часе здачы кожнай партыі лесазагатоўшчык .................. павінен паведаміць лесаспажываючую арганізацыю за 10 дзён да

часу здачы, прычым няпрыбыцьце прадстаўніка лесаспажываючай
арганізацыі к моманту здачы пазбаўляе лесазагатоўшчыка ад адказ-
насьці за пратэрміноўку. Разьмер партыі і парадак здачы ўстанаў-
ляецца згодаю старон.

9. Калі вынікам навальных акалічнасьцяй вывазка і дастаўка
лесаматар'ялаў і дроў будзе немагчыма, то лесазагатоўшчык ..........
.............................. павінен неадкладна або ва ўсякім выпадку не пазьней
7-мі дзён па надыходзе паказанае акалічнасьці паведаміць аб гэтым
лесаспажываючую арганізацыю .............................................. для ўстанаўленьня
па пытаньню аб далейшым выкананьні гэтага дагавору дапаўняль-
нае згоды.

10. Прад'яўленыя да здачы лесаматар'ялы і дровы павінны быць
складзены такім чынам, каб быў вольны доступ з усіх бакоў для
агляду іх, падліку і абмеру; абмер і тэхнічныя ўмовы вызначаюцца
стандартам Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР.

11. Па прыёмцы лесаматар'ялаў і дроў складаецца прыёмазда-
вальны акт за подпісамі абедзьвёх старон, які служыць падставаю
для канчатковага разьліку за паказаныя ў акце матар'ялы.

12. Пры невыкананьні лесазагатаўшчыкам тэрмінаў, устаноў-
леных у п. 7 гэтага дагавору для здачы лесаматар'ялаў і дроў, ім
выплачваецца лесаспажываючай арганізацыі .............................. за кожны
пратэрмінованы дзень пеня ў разьмеры $^1/_{10}\%$, кошту недастаўленых
лесаматар'ялаў і дроў; у выпадку пратэрміноўкі болей аднаго месяца
з дня наступленьня тэрміну лесазагатоўшчык ..................................
абавязан адплаціць лесаспажываючай арганізацыі зробленыя пра-
тэрміноўкай страты, пры чым апошняй даецца права набыць адпа-
ведную колькасьць лесаматар'ялаў і дроў з пакрыцьцем розьніцы ў
цане за рахунак лесазагатоўшчыка, а гэты дагавор застаецца
ў сіле.

13. Пры нявыплаце лесапажываючай арганізацыяй ..........................
устаноўленых дагаворам плацяжоў у паказаныя ў п. 5 тэрміны, ею
выплачваецца лесазагатоўшчыку за кожны пратэрмінованы дзень
пеня ў разьмеры $^1/_{10}\%$ незаплачанай сумы, у выпадку-ж пратэрмі-
ноўкі болей аднаго месяца выплачваецца няўстойка ў разьмеры
10% пратэрмінованых плацяжоў, пры гэтым лесазагатоўшчыку даецца
права скасаваць дагавор.

14. Лесаматар'ялы і дровы да здачы знаходзяцца пад аховай і
адказнасьцю лесазагатоўшчыка, а пасьля здачы ахова і адказнасьць
пераходзяць на лесаспажываючую арганізацыю, з якога мамэнту пера-
носяцца на апошнюю таксама і ўсе выдаткі, зьвязаныя з складаньнем
гэтых лесаматар'ялаў і дроў на жалезнай дарозе, або ў іншым адпа-
ведным вучастку.

15. Дагавор уваходзіць у сілу з дня падпісаньня яго старанамі.

16. Арыгінальны дагавор захоўваецца ў ..............................................,
а засьведчаная з яго копія выдаецца ..............................................

17. Гэрбавы збор выплачваецца ..............................................,
а біржавыя і іншыя зборы па афармленьні дагавору выплачваюцца
старанамі пораўну.

18. Усе спрэчкі па гэтаму дагавору вырашаюцца Арбітражнай
Камісіяй пры Эканамічнай Нарадзе БССР.

19. Юрыдычныя адрасы старон ..............................................

## 6. Лепельскі раён Барысаўскае акругі.

*(Агляд стану раёну і дзейнасьці РВК за пэрыяд з сакавіка да 1 сьнежня 1926 г., паводле справаздачы РВК).*

На тэрыторыі Лепельскага раёну знаходзіцца 581 населены пункт. Усяго насяленьня лічыцца 52.402 чалав. Па нацыянальнаму складу насяленьне падзяляецца: беларусаў—43.869 ч., палякаў—4.062 ч., яўрэяў—4.409 ч. і інш.—80 чал. Па сацыяльнаму становішчу 53 проц. насяленьня складаюць бедякі, 45 проц. сераднякоў і 2 проц. заможных.

Сельская гаспадарка. У раёне налічваецца 8.477 гаспадарак, 129.526 дзес. зямлі, якая падзяляецца на: пахаць—41.166 дзес. (або 31,7 проц.), сенажаць—16.659 дзес. (або 12,8 проц.), рэчак і вазёр 4.000 дзес. (0,3 проц.), лясоў 56,000 дзес. (48,2 проц.) і няўдобнай зямлі 12.052) дзес. (або 9,3 проц.).

У галіне жывёлагадоўлі ў гэтым годзе па раёну ў параўнаньні з мінулым годам наглядаецца павялічэньне: буйнае рагатае жывёлы на 8,4 проц., маладняку на 16 проц., рабочых коней на 7,2 проц., маладняку на 17 проц. і г. д. Гаспадарак бяз коней у раёне лічыцца 12 проц.

У галіне земляўпарадкаваньня за справаздачны пэрыяд праведзена наступнае:

а) праведзена абрэзка і разьмеркаваньне зямлі запаснага фонду на плошчы 1.964,54 дзес.;

б) надзелена безьзямельных і малазямельных 566 двароў;

в) падрыхтавана спраў для земляўпарадкаваньня на плошчы 2.726,82 дзес.;

г) тэхнічна выканана ў натуры з складаньнем плянаў на плошчы 1364,48 дзес.

За справаздачны пэрыяд у раённую зямельную камісію паступіла да разгляду 22 справы і засталося неразгледжаных да 1 сакавіка 1926 г. 45 спраў. З гэтага ліку РЗК разьгледжана 49 спраў і засталося неразгледжанымі—18.

Дзяржаўная зямельная маемасьць раёну складаецца з 16 садова-гародных гаспадарак, якія ў большасьці здаюцца ў арэнду, і з 68 вадаёмаў на плошчы 3.816 дзес., з іх 26 на плошчы 1.290 дзес. здаюцца у арэнду. Апрача таго ў складзе дзяржаўных маемасьцяй знаходзіцца 12 млыноў, з якіх 9 здаюцца ў арэнду, а 2 працуюць бясплатна за кошт рамонту, 23 вучасткі лугавых удобьяў, якія лічыліся ў складзе дзяржаўнае зямельняе маемасьці на плошчы 167 дзес., перададзены ў працоўнае карыстаньне.

У галіне вэтэрынарыі давалася дапамога ў лячэньні хворае жывёлы і коней. За справаздачны пэрыяд зарэгістравана павальных заразных хвароб у 13 пунктах. Праводзіцца вэтэрынарна-санітарны нагляд за прывазімымі для продажу прадуктамі і жывою жывёлаю, а таксама праводзіцца санітарны нагляд за разьніцай. Вядзецца вэтэрынарна-асьветная работа праз выезды на вёскі.

У галіне агранаміі праведзена кампанія па прэміраваньні за палепшаныя спосабы вядзеньня гаспадаркі. Дадзена прэмій: 10 вёскам, 6 пасёлкам і 7 індывідуальным гаспадаркам на агульную суму 499 руб. За справаздачны пэрыяд ачышчана збожжа 30.272 пуды і пратраўлена 520 п. Уведзена шматпольле ў 2 вёсках з агульным лікам двароў—302 на плошчы 136 дзес., у 7 пасёлках, у 2 калектыўных гаспадарках і ў 3 індывідуальных гаспадарках, а ўсяго на плошчы 610 дзес. Закладзена 2 новых паказальных сады. Праведзена 2 курсаў: па садоўніцтву і гародніцтву і па сельскай гаспадарцы. Арганізавана 5 сельска-гаспадарчых гурткоў. Быў прыняты ўдзел ва Ўсебеларускім конкурсе на лепшую сялянскую гаспадарку, у выніку чаго гаспадарка грамадзяніна Мароза атрымала дыплём 1-е ступені і 1 сельска-гаспадарчы гурток (Забалацкі) прэмію ў 125 р. Закладзена паказальная гадоўля цялят. У верасьні месяцы ў г. Лепелі праведзена выстаўка па жывёлагадоўлі, на якой было выдадзена прэмій на 292 р.

Агульная плошча лясоў Лепельскага лясьніцтва складае 21.891,21 гэкт. Для продажу лесу ў 1925-26 г. было назначана 403 дзес. на суму 42.221 р. З гэтага ліку дадзена лесу ўстановам льготна і бясплатна на суму 1.175 р., мясцоваму насяленьню (льготна і бясплатна) на суму 566 р., у парадку крэдытаваньня на суму 319 р. і на каштарысныя патрэбы на суму 10.316 р. У веданьні лясьніцтва знаходзіцца адна смалярня, якая здаецца ў арэнду.

Прамысловасьць. Па свайму эканамічнаму становішчу Лепельскі раён лічыцца слабым з прычыны таго, што ў раёне няма фабрык і заводаў. Усяго прамысловых прадпрыёмстваў лічыцца: камбінаваных—1, прыватных — 8, саматужных — 110. Камбінат яднае наступныя прадпрыемствы: цагельню, млын, разьніцу, электрастанцыю, лазьню, тэатр, друкарню і кіно-перасоўку. Ад усіх гэтых прадпрыемстваў за выключэньнем арэнды ад цагельні і млыну чыстага прыбытку налічваецца 2.309 р.

У галіне камунальнае гаспадаркі трэба адзначыць правядзеньне наступных работ: папраўлена 2 масты і пабудавана 3 новых, пабудавана памяшканьне для Весялоўскага сельскага савету. За справаздачны пэрыяд пабудавана 28 мастоў раённага значэньня, на што затрачана 1.268 р. Аддадзена пад забудоўку 60 вучасткаў. У раёне лічыцца 10 пажарных арганізацый, якія абслугоўваюць 5.086 двароў.

Фінансы. Сельска-гаспадарчага падатку на 1925-26 год налічана па раёну 83.424 р. 18 к. Зволынена ад падатку сем'яў чырвонаармейцаў, сем'яў асоб, якія знаходзяцца ў вышэйшых навучальных установах, інвалідаў і перасяленцаў на суму 3.474 р., незаможных гаспадарак на суму 336 р. і інш., а ўсяго зьнята падатку 8.738 р., або 10,4 проц. да агульнае сумы налічанага падатку. Выканана падатку 70.097 р., або 84,1 проц. Засталося да выкананьня 74.636 руб. Зробленая праверка вынікаў вучоту аб'ектаў абкладаньня дала добрыя вынікі. Было выяўлена пахаці 291 дзес., сенажаці 172 дзес., 157 кароў і інш. Было дадаткова налічана 2.684 р. падатку.

Было налічана падатку на дзяржаўныя і каапэрацыйныя гандлёвыя і прамысловыя прадпрыемствы 4.590 р. і на прыватныя каля 82.000 р. Мясцовы бюджэт раёну складаецца з: мясцовых прыбыткаў 108.403 р., дапамог з акруговага фонду рэгуляваньня 82.420 руб., а ўсяго 190.893 р. Выдаткаў—190.893 р. Рэалізавана аблігацый 2-е сялянскае выйграшнае пазыкі па 9.000 р.

Народная асьвета. У раёне лічыцца 53 школы, з іх 2 сямёхгодкі. Па абслугоўваньні нацыянальных меншасьцяй школы падзяляюцца: 2 польскіх, 1 беларуска-польская, 1 беларуска-яўрэйская і 47 беларускіх, з якіх 12 школ 2-х кампл. і 34 аднакампл. З усіх школ 29 зьмяшчаюцца ў дзяржаўных будынках, а рэшта ў наёмных. Дзяцей школьнага ўзросту не ахоплена 34 проц. Рамонт у школах у гэтым годзе зроблен прыблізна на 6.000 р. Пры школах лічыцца 80 дзес. школьных зямельных вучасткаў, якія часткова здаваліся ў арэнду, а часткова скарыстоўваліся самімі настаўнікамі. Падручнікамі і апалам школы задаволены.

У раёне налічваецца больш 400 піянэраў. З кожным годам піянэрскі рух у раёне пашыраецца.

У галіне беларусізацыі трэба адзначыць наступнае. Усе школы працуюць на беларускай мове. У сучасны момант усе ўстановы раёну вядуць дзелаводзтва на беларускай мове. У г. Лепелі, а таксама і пры сельсаветах існуюць беларускія курсы.

Узаемаадносіны настаўніцтва з дзяржаўнымі і грамадзкімі ўстановамі і арганізацыямі добрыя. Каштарыс па народнай асьвеце па раёну ў параўнаньні з мінулым годам значна пашыраны, павялічаны сродкі на капітальны рамонт і інвэнтар. Краязнаўчая праца ў раёне да гэтага часу ня была належна разгорнута. У гэтым напрамку прыняты адпаведныя захады.

У раёне знаходзіцца адзін дзіцячы дом з лікам 50 дзяцей у ім. Матар'яльнае становішча дзіцячага дому цяпер здавальняючае, адчуваецца недахват ў вопратцы. Арганізаваны сталярная і шавецкая майстэрні. Ёсьць таксама дзіцячы сад з лікам 30 дзяцей. Працавалі таксама адны дзіцячыя ясьлі з лікам 30 дзяцей у іх і 2 дзіцячыя пляцоўкі, з якіх адна пляцоўка працавала за сродкі, адпушчаныя каапэрацыяй і іншымі арганізацыямі. У раёне ёсьць 4 хатычытальні, з якіх 3 беларускіх і 1 польская. Вялікай перашкодаю ў працы хат-чыталень зьяўляецца частая перамена загадчыкаў. Пры гэтых хатах-чытальнях існуе 11 гурткоў, а таксама пры кожнай хаце-чытальні існуюць сталы даведак. Газэтамі і журналамі хатычытальні задаволены.

Праца па ліквідацыі няпісьменнасьці праходзіць добра. Адчынена і працуе 15 пунктаў па ліквідацыі няпісьменнасьці. Падручнікамі і прыладамі гэтыя пункты забясьпечаны.

Ахова здароўя. У раёне ёсьць 1 больніца ў г. Лепелі і 1 мэдыцынскі вучастак у вёсцы Несіне. а справаздачны пэрыяд была абсьледвана частка школ раёну, было зроблена 9 выездаў у 3 вёскі па прычыне эпідэміі. У горадзе зроблена дэзынфэкцыя школьных памяшканьняў і ўстаноў. Хворых за год было: эпідэмічных 570, і неэпідэмічных 1.109. Пры бальніцы ёсьць 30 ложкаў для хворых. Кожны дзень у бальніцу прыязджаюць у сярэднім 60 чалавек. Пры бальніцы ёсьць 2 дактары, 1 зубны доктар, 2 акушэркі, 2 сястры. Апрача работы ў галіне дачы лекавай дапамогі насяленьню мэдыцынскім пэрсаналем праводзілася і прафілактычная работа.

Каапэрацыя. На тэрыторыі раёну ёсьць 6 спажывецкіх таварыстваў і адно сельска-гаспадарчае крэдытнае таварыства з лікам 904 пайшчыкаў у ім. Апрача паасобных сялянскіх двароў у лік пайшчыкаў сельска-гаспадарчага таварыства ўваходзіць 8 сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў, 1 мэліарацыйнае таварыства і сельска-гаспадарчыя арцелі. З атрыманых для крэдытаваньня насяленьня доўгатэрміновых пазычак выдана насяленьню 11.376 р. Рэшта атры-

манае сумы затрачана на цагельню і на закупку сельска-гаспадарчых машын і мінэральнага ўгнаеньня.

На тэрыторыі раёну ёсьць 1 тэлеграфна-паштовае аддзяленьне сувязі з тэлефоннай падстанцыяй. Кальцавою поштаю абслугоўваецца насяленьне ўсіх сельсаветаў раёну. Пры кожным сельсавеце ёсьць паштовыя скрынкі, а таксама практыкуецца продаж знакаў паштовае аплаты.

Па страхаваньні да 1 кастрычніка 1926 г. было выплачана страхоўкі на 84% гадавога заданьня. На 1926/27 год налічана акладу разам з нядоімкаю 31.559 р., дадзена льгот па страхоўцы на суму 1.830 р. З 1 кастрычніка да 1 сьнежня спагнана 6.160 р., што складае 20% гадавога заданьня. Дадзена дапамогі 600 гаспадаркам, пацярпеўшым ад розных няшчасьцяў на суму 11.865 р., а разам з дадзенымі льготамі беднаце 20.696 р.

Стан апарату раёну. Лепельскі РВК складаецца з 15 асоб, з іх 14 мужчын і 1 жанчына. Па соцыяльнаму становішчу рабочых 6, сялян 7, настаўнік 1 і інш. 1; па партыйнасьці: членаў КПБ—6, кандыдатаў у члены—2, членаў КСМ—1 і беспартыйных—6. З усіх пытаньняў, разгледжаных на пасяджэньнях Прэзыдыуму РВК, большае месца займаюць лясныя пытаньні, адміністрацыйныя, камунальна-дарожныя, грашова-падатковыя і інш. У верасьні месяцы мінулага году была праведзена беспартыйная канфэрэнцыя сялян. Пры РВК існуюць наступныя сталыя камісіі: 1) зямельная, 2) камісія па разгляду спраў аб лесапарушэньнях, 3) юрыдычная, 4) рэвізійная.

На тэрыторыі раёну знаходзіцца 13 сельскіх саветаў і 1 гарадзкі савет. Пры кожным сельсавеце арганізаваны наступныя камісіі: 1) сельска-гаспадарчая, 2) культасьветная, 3) грашова-падатковая 4) каапэрацыйная, 5) камісія дабрабыту. Праца камісій праводзіцца слаба. Гэта тлумачыцца адсутнасьцю ў складзе камісій сялянскага актыву і невыстрачальным кіраўніцтвам з боку прэзыдыумаў сельсаветаў. З боку РВК зьвярталася належная ўвага на працу сельсаветаў праз заслухоўваньне справаздач на пасяджэньнях прэзыдыуму РВК, а таксама праз абсьледаваньне. Праведзеныя 2-х тыднёвыя курсы старшынь і сэкратароў сельсаветаў, а таксама старшынь камітэтаў узаемадапамогі далі добрыя вынікі ў сэнсе павялічэньня працаздольнасьці сельсаветаў.

У раёне ёсьць таксама народны суд. За справаздачны пэрыяд паступіла 1.706 спраў, з іх: крымінальных 912 і грамадзянскіх 794. Крымінальныя справы па характару злачынстваў падзяляюцца: супроць парадку кіраваньня 190, маемасных—95, супроць грамадзкага парадку 38, пасадных—31, гаспадарчых 9, парушэньне правіл аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы—5 і інш.—544. Разгледжана: крымінальных 732 і грамадзянскіх 612. Засталося неразгледжанымі 180 крымінальных спраў і 182 грамадзянскіх.

У канцы лістапада м-ца скончана праца па абмеркаваньні насяленьнем праэкту кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы. Праводзіцца кампанія па перавыбарах народных засядацеляў. Пры народным судзе знаходзіцца юрыдычны гурток. У выездных сэсіях разгледжана 370 спраў. На 912 прыгавораў па крымінальных справах паступіла 129 касацый. Адменена Акруговым Судом 11 прыгавораў па крымінальных справах. Разгляд спраў у кожным месяцы даходзіць да 250.

У г. Лепелі знаходзіцца таксама камэра народнага сьледчага, які абслугоўвае 2 раёны: Лепельскі і Чарэйскі. За справаздачны пэрыяд народнаму сьледчаму паступіла 793 справы аб злачынствах, з

іх: 358 па маемасных злачынствах, 183 посадныя, 146 супроць жыцьця і здароўя, 76 супроць парадку кіраваньня і інш.

Асабовы склад міліцыі раёну—17 чалавек. З усіх узьнікшых 673 злачынстваў міліцыяй выяўлена 462. Большасьць з гэтых злачынстваў займае самагонакурэньне.

**А. М.**

---

## 7. Дзейнасьць Прудоцкага Сельскага Савету Лепельскага раёну Барысаўскае акругі.

(*За пэрыяд з 15 лютага да 1 сьнежня 1926 г.*).

Прудоцкі Сельскі Савет яднае сабою 2.886 чалавек насяленьня, якое па свайму сацыяльнаму становішчу складаецца ў большасьці з беднякоў. Па нацыяльнаму складу насяленьне падзяляецца: беларусаў—2.319, палякаў—548, яўрэяў—19. З агульнага ліку насяленьня пісьменных—1.686 ч. і рэшта 1.200 ч. няпісьменныя.

Усяго паселішч у сельскім савеце—62, сельскіх двароў—525.

На тэрыторыі сельскага савету няма ніякіх прадпрыемстваў, насяленьне жыве бедна. Глеба ў большасьці пяшчаная і падзолістая. Адхожых зарабаткаў насяленьне таксама ня мае. У сельсавеце лічыцца 62 гаспадаркі бяз коней. У параўнаньні з мінулым годам у галіне гадоўлі жывёлы наглядаецца павялічэньне на 50 шт. коней, на 44 шт. кароў і г. д.

Агульная плошча зямлі ў сельсавеце складае 5.524 дзес., з іх пад пахацьцю—2.076 дзес., пад сенажацьцю—1.028 дзес., пад балотам 203 дзес., пад лесам—1.802 дзес. і пад вазёрамі—413. Гаспадаркі вядуцца цераспалосна, атрубамі, хутарамі, пасёлкамі. Ёсьць адна арцель. Праведзена абрэзка зямлі ў двух гаспадарках. Разьмеркавана сярод безьзямельных і малазямельных 153,5 дзес. Ад разьмеркаваньня і абрэзак надзелена 78 гаспадарак, з іх 6 безьзямельных гаспадарак надзелены зямлёю і 72 малазямельных гаспадаркі данадзелены.

У часе пасеўных кампаній сельскім камітэтам узаемадапамогі давалася дапамога сельскаму насяленьню праз выдачу насеньня.

Мэліарацыйных таварystваў у сельсавеце няма. Работа ў галіне мэліарацыі вядзецца самім насяленьнем. У мінулым годзе ім выкапана канава на працягу больш 4.000 саж.

Агульная плошча лясоў мясцовага значэньня на тэрыторыі сельсавету 143 дзес. Гэтыя лясы выкарыстоўваюцца паводле існуючых законаў. Наглядаюцца выпадкі, калі некаторыя сяляне сякуць лес бяз усякага пляну. Сельскім саветам у гэтай галіне праводзяцца належныя тлумачэньні. З тэхнічнага боку лясы мясцовага значэньня ўпарадкаваны слаба.

Калектыўных гаспадарак ў сельсавеце 1. Апрацоўка зямлі ў ёй праводзіцца па трохпольным севазвароце. Палепшаньняў у гаспадарцы ніякіх ня зроблена. Становішча яе параўнальна з мінулым годам не палепшана і дасягненьняў ніякіх няма.

На тэрыторыі сельсавету ёсьць 4 школы, з лікам вучняў у іх 166 чалавек. 20 проц. дзяцей школьнага ўзросту не ахоплены школаю. Гэта часткова тлумачыцца тым, што школы знаходзяцца на далёкай адлегласьці ад населеных пунктаў. Школы знаходзяцца ў

досыць добрым становішчы. 3 школы зьмешчаны ў дзяржаўных будынках і апалам задаволены добра.

У сельсавеце ёсьць грамадзкія арганізацыі, як: „Мопр“ з лікам 22 члены, „ПН“, 4 пункты па ліквідацыі няпісьменнасьці.

У галіне беларусізацыі вялікіх дасягненьняў яшчэ няма, але з 15 кастрычніка ўжо ўсё справаводзтва сельсавету вядзецца на беларускай мове, а таксама ў школах і ў камітэце ўзаемадапамогі. Гэтую працу яшчэ патрэбна ўзмацніць.

Падлік аб‘ектаў абкладаньня па сельска-гаспадарчаму падатку на 1926-27 г. праведзены здавальняюча. Вынікі яго ў гэтым годзе лепшыя за вынікі 1925-26 г. Налічана падатку 3.332 р., выканана 1.510, засталося да выкананьня 1.821 р. Нядоімак 1925-26 г. лічыцца 262 р., з іх выканана 83 р. і засталося 179 руб. 258 гаспадарак звольнена ад с.-г. падатку.

Паступленьне плацяжоў па дзяржаўным страхаваньні праходзіць добра. Налічана страхоўкі 1.696 р., паступіла 498 р. Нядоімак мінулых гадоў 302 р., паступіла 113 р. Дадзена льгот на 129 р. Такім чынам засталося да выкананьня 1068 р. і 189 р. нядоімак.

Каапэрацыі ў сельсавеце няма. Каля 150 чал. каапэравана суседнімі каапэрацыйнымі арганізацыямі.

Работа сельсавету ў галіне дабрабыту праводзілася ў наступным напрамку. Адрамантавана мастоў мясцовага значэньня—21. Нанова пабудавана 10 мастоў сельскага значэньняі і 2 масты раённага значэньня. Трэба адзначыць, што насяленьне ў гэтай рабоце яшчэ ня прымае значнага ўдзелу.

Усяго членаў сельскага савету 14 чалавек, у тым ліку старшыня і сэкратар. Прэзыдыум складаецца з 3-х асоб. Пры сельсавеце існуюць 5 камісій з лікам членаў у іх 25 чалавек. Камісіі наступныя: 1) грашова-падатковая, 2) зямельная, 3) каапэрацыйная, 4) культасьветная і 5) камісія па дабрабыту. Праца камісій праходзіць слаба, пляны іх работы выконваюцца няпоўнасьцю. Гэта тлумачыцца тым, што члены камісій яшчэ добра не зразумелі значэньня камісій. Мала выяўлены сялянскі актыў. З боку сельсавету ў гэтым напрамку праводзіцца належнае кіраўніцтва.

Праца камітэту ўзаемадапамогі ў параўнаньні з мінулым годам узмацнілася слаба. Усяго членаў камітэту лічыцца 1.684, фонд камітэту складае 206 р. Спагнаньне членскіх узносаў праходзіць вельмі слаба з прычыны таго, што насяленьне яшчэ не зразумела значэньня камітэту ўзаемадапамогі. У веданьні камітэту знаходзіцца адзін сад, плошчаю ў 8 дзес. Гэты сад здаецца ў арэнду за 124 р.

За справаздачны пэрыяд адбылося 7 пасяджэньняў пленуму сельсавету, 5 пасяджэньняў прэзыдыуму, 4 агульных сходы, 1 канфэрэнцыя і інш. З усіх пытаньняў, разгледжаных на пленуме сельсавету, большае месца займаюць зямельныя пытаньні, гаспадарчыя, грашова-падатковыя і г. д. Пастановы пленумаў і прэзыдыумаў выконваюцца здавальняюча. Плян працы сельсавету таксама выконваецца добра. Кіраўніцтва сельскага савету грамадзкімі арганізацыямі праводзіцца праз заслухоўваньне справаздач аб іх дзейнасьці і дачы адпаведных паказаньняў у далейшай іх працы.

**А. М.**

## 8. Краязнаўчыя таварыствы і гурткі ў культурна-асьветных установах *).

Старая дарэвалюцыйная школа, пабудаваная на іншых прынцыпах, чым школа Савецкая, зусім не вывучала мясцовага краю. У Савецкай школе, дзе выхаваньне і навучаньне будуецца на сувязі з *акружаючай рачавістасьцю* і на актыўнасьці і самадзейнасьці вучняў, краязнаўчы матар'ял павінен займаць і займае пачэснае месца.

Калі мы гаворым аб комплекснай сыстэме, якая праведзена ў масавай школе, дык мы ясна уяўляем сабе, што комплексы, якія прадстаўляюць аналіз непасрэдна акружаючай вучня рачавістасьці, без краязнаўства ня будуць даваць тых вынікаў, якіх мы ад іх павінны чакаць; без краязнаўства комплексы будуць малазразумелымі і абстрактнымі і ня будуць каштоўнымі ў выхаваўчым і адукацыйным сэнсе. Акружаючае школу жыцьцё павінна быць асновай для ўсей школьнай працы і, калі мы падойдзем да вывучэньня гэтага жыцьця не экадэмічна, як было гэта ў дарэвалюцыйнай школе, а практычна, дык комплексная сыстэма, пабудаваная на краязнаўчым матар'яле, паступова выпрацуецца ў стройнае цэльнае, дзе ня будзе зусім месца філёзофскім выдумкам і абгрунтаваньням.

Тут трэба адзначыць, што вельмі часта пэдагогу цяжка падводзіць краязнаўчы базіс у справе вывучэньня акружаючага жыцьця па той прычыне, што адсутнічае краязнаўчы матар'ял і да гэтага часу не апрацаваны сталыя мэтады падыходу да акружаючай рачавістасьці.

Гэта ставіць перад школай дзьве асноўныя задачы: зьбіраньне згуртаваньне мясцовага матар'ялу і выпрацаваньне зразумелых і цікавых для вучняў спосабаў падыходу да акружаючай рачавістасьці.

Задачы гэтыя вельмі складаныя і для вырашэньня іх патрэбна будзе ўпартая і марудная праца ўсёй масы асьветнікаў на аснове абмену вопытам і дакладнага вучоту дасягненьняў.

Разам з гэтым трэба адзначыць, што правільнай пастаноўцы школьнага краязнаўства перашкаджала і тое, што вывучэньне мясцовага краю ішло, так сказаць „самацёкам", грунтавалася выключна на самадзейнасьці паасобных настаўнікаў і вучняў, якія цікавіліся прыродай мясцовага краю. Школьных арганізацый па краязнаўству ў поўным сэнсе гэтага слова амаль што ня было; дзейнасьць краязнаўчых школьных арганізацый, дзе яны існавалі, ня была рэглямантавана, у прыватнасьці ня была вызначана іх мэта, фінансавая база, склад і г. д.

Вось чаму зацьверджаньне Народным Камісарыятам Асьветы тыповых статутаў гурткоў краязнаўства ў тэхнікумах, школах сацыяльнага выхаваньня і палітасьветы, хатах-чытальнях, народных дамох і бібліатэках, а таксама статуту таварыстваў краязнаўства пры вышэйшых навучальных установах, набывае асобнае значэньне ў школьным жыцьці.

Ужо з вышэйпаказанага відаць, што ўсе культурна-асьветныя ўстановы могуць заснаваць у сябе краязнаўчыя арганізацыі.

Згодна зацьверджаных статутаў школьныя краязнаўчыя арганізацыі, апрача сваіх агульных мэт маюць і спэцыяльныя задачы. Да агульных мэт адносіцца зьбіраньне і ўсебаковае вывучэньне краязнаўчых матар'ялаў у прырода-геаграфічным, сацыяльна-эканамічным і культурна-гістарычным напрамках.

---

*] Гл. Пастанову Н. К. Асьветы за 15 студзеня г.г. № 38 на стар. 9.

Гэту мэту школьныя краязнаўчыя арганізацыі ажыцьцяўляюць у розным тэрытарыяльным абхваце,—кожная арганізацыя прыстасоўваецца к свайму раёну: так, краязнаўчыя гурткі пры чатырохгодках зьбіраюць і дасьледуюць краязнаўчы матар'ял той вёскі, або вёсак, якія абслугоўваюцца даннай школай; таксама і сямёхгодка, хата-чытальня, народны дом і г. д.; тэхнікум, як установа, у большасьці, акругэвага значэньня, вядзе паказаную працу па сваёй акрузе; тыя-ж тэхнікумы, якія абслугоўваюць патрэбы розных акруг, або ўсёй БССР, а таксама і вышэйшыя навучальныя ўстановы вядуць сваю працу па зьбіраньні і дасьледаваньні краязнаўчых матар'ялаў на тэрыторыі БССР.

Другой агульнай усім школьным краязнаўчым арганізацыям, мэтай зьяўляецца пашырэньне ведаў, зьвязаных з задачамі школьных краязнаўчых арганізацый, і папулярызацыя краязнаўства сярод самых вучняў і шырокіх колаў насяленьня.

Як вышэй было сказана, некаторым краязнаўчым арганізацыям статутам вызначаюцца і спэцыяльныя мэты. Сюды адносяцца краязнаўчыя таварыствы пры вышэйшых навучальных установах, якія прымаюць удзел у дасьледаваньні і навуковай апрацоўцы ўжо сабранага краязнаўчага матар'ялу ў архівах, музэях і іншых установах.

Статуты вызначаюць таксама шляхі і спосабы, з дапамогай якіх краязнаўчыя школьныя арганізацыі ажыцьцяўляюць свае заданьні; гэта: арганізацыя лекцый, дыспутаў, дакладаў, нагляданьняў, экспэдыцый, экскурсій, музэяў і г. д.

Прымаючы пад увагу, што школьныя краязнаўчыя арганізацыі зьяўляюцца арганізацыямі маладымі і што шырокае іх разгортваньне магчыма, як і ва ўсякай іншай новай справе, толькі тагды, калі яны стануць папулярнымі ў вучнёўскай масе, а таксама выходзячы з таго, што лік актыўных працаўнікоў—краязнаўцаў у школах вельмі абмяжованы, статуты ўстанаўляюць невялікі мінімум асоб, якія могуць засноўваць гурток, або таварыства: 5—у хатах-чытальнях, народных дамох і бібліатэках, 7—у школах, 10—у тэхнікумах і вышэйшых навучальных установах. У краязнаўчых арганізацыях культурна-асьветных устаноў могуць прымаць удзел вучні і ўсе працаўнікі даннай установы.

Паводле статутаў школьныя краязнаўчыя гурткі і таварыствы маюць свае сродкі. Праўда, ад дзяржавы яны не атрымоўваюць ніякіх асыгнаваньняў і ўсе іх сродкі складаюцца, галоўным чынам, з членскіх узносаў, прыбыткаў ад продажу краязнаўчых выданьняў, са збораў за ўваход на лекцыі, дыспуты, выстаўкі і г. д., але трэба спадзявацца, што мясцовая ўлада і грамадзкасьць заўсёды пойдзе насустрэч тым арганізацыям, якія выявяць актыўнасьць і будуць мець посьпех і добрыя вынікі ў сваёй працы.

Краязнаўчыя арганізацыі кіруюцца праўленьнем, якое выбіраецца агульным сходам.

Вось у агульных рысах структура і мэты школьных краязнаўчых арганізацый, як яны вызначаюцца ў статутах.

Зусім зразумела, што гэтыя арганізацыі не павінны быць замкнутымі ў рамках свае ўстановы, яны павінны ўстанавіць шчыльную сувязь з іншымі школьнымі краязнаўчымі арганізацыямі, а таксама з краязнаўчымі таварыствамі і паасобнымі працаўнікамі-краязнаўцамі, якія працуюць па лініі Інстытуту Беларускае Культуры. Гэта патрэбна хоць-бы ўжо па тэй прычыне, што школьнае краязнаўства, як справа зусім новая, ня мае яшчэ апоры ў сталых мэтадычных працах. З другога боку, калі паміж школьнымі краязнаўчымі

арганізацыямі і іншымі ня будзе сувязі, то могуць быць выпадкі дасьледаваньня тых галін, прадметаў і зьявішч, якія ўжо дасьледаваны. Праўда, для вучняў, падчас, больш карысным могуць быць не аб'ектыўныя навуковыя вынікі дасьледаваньня, а самыя мэтады працы, як выхаваўчыя элемэнты, але ўсё-ж такі ўзаемнае асьведамленьне аб краязнаўчай працы ня губляе і тут свайго значэньня.

Канчаючы свой артыкул, лічу ня лішнім зрабіць адну заўвагу адносна школьнай краязнаўчай працы. Гэта праца складаецца з цэлага шэрагу натуг і дасягненьняў, канчатковыя вынікі могуць выявіцца праз пэўны пэрыяд часу. Да гэтага трэба дадаць, што яна патрабуе дакладнасьці, акуратнасьці і ўпарства. Па прычыне гэтых асаблівасьцяй, яна можа паказацца для вучняў нуднай і няцікавай. Пагэтаму асабліва важна перад пачаткам работы і ў самым яе працэсе вынсьвятляць яе канчатковыя мэты, зьвязваць яе з самымі жыцьцёвымі пытаньнямі сучаснасьці. Таксама вельмі важна, каб кожная, нават самая маленькая, задача выпрашалася дакладна і поўна. Трэба паказаць вучням вынікі працы. Ня трэба ставіць вялікія заданьні. Лепш вызначыць менш, але выканаць дасканальна. Толькі тагды вучні ацэняць сваю працу і яна ня будзе здавацца ім працай „упустую". Гэта, можа быць, марудны, але адзіны верны шлях. Абдуманасьць, плянавасьць, дакладны аналіз абстаноўкі, у якой прыходзіцца працаваць,пастаноўка толькі магчымых, пры школьных умовах, задач і грунтоўнае замацаваньне ўзятых пазіцый—вось тыя сродкі, пры дапамозе якіх мы можам паставіць краязнаўчую працу ў культурна-асьветных установах на правільны шлях.

**Ю. Савіч.**

---

## 9. Дасягненьні і пэрспэктывы ў дарожным будаўніцтве БССР.

Дарожная гаспадарка БССР пачала арганізоўвацца і разьвівацца з жніўня м-ца 1922 году, з часу ўстанаўленьня самастойнай дарожнай арганізацыі.

Рост дарожнага будаўніцтва за апошнія пяць год характарызуецца наступнымі лічбамі: у 1922/23 г. выдаткавана—200.000 руб.; у 1923/24 г.—130.000 руб.; у 1294/25 г.—436.000 руб.; у 1925/26 г. —1.070.000 руб.; на 1926/27 г. асыгнавана—1.777.000 руб., што дае рост асыгнаваньняў у параўнаньні з 1922/23 г. г. на 789 проц.

Наяўнасьць вялікага ліку зруйнаваных вайной і інтэрвэнцыяй дарожных збудаваньняў прымусіла ў першыя два гады дарожнага будаўніцтва зьвяртаць увагу выключна на аднаўленьне зруйнаваных і старых мастоў і інш. збудаваньняў.

Пачынаючы з 1924/25 г. аднаўленьне дарог праводзіцца па 5-ці гадоваму пляну, зацьверджанаму Эканамічнаю Нарадай БССР. Першы год плянавага будаўніцтва (1924—1925 г.) па прычынах невыстарчальных асыгнаваньняў, прайшоў з нязначнымі вынікамі: выканана работ усяго 28% намечанага пляну; другі год (1925—1926 г.)—72%; трэці (1926—1927 г.) дае магчымасьць ня толькі ажыцьцявіць праграму поўнасьцю, але і папоўніць недаробкі мінулых гадоў у суме каля 300.000 руб.

Па крыніцах фінансаваньня асыгнаваньне на 1926/27 г. разьбіваецца на 3 катэгорыі: а) субвэнцыя—579.000, р., б) акруговыя сродкі—1.057.000 руб. і в) раённыя сродкі—141.000 руб.

За кошт субвэнцыйных сродкаў мяркуецца зрабіць капітальныя работы на дарогах з вялікай грузанапружанасьцю і набыцьцё мэханічных прылад і струмэнтаў.

На кошт акруговых сродаў аднесены: а) выдаткі на ўтрыманьне акруговых дарог, аднаўленьне і рамонт мастоў даўжынёй звыш 10 мэтраў на раённых дарогах; б) на ўтрыманьне пад'ездных дарог і в) усе неапэрацыйныя выдаткі. Папудны збор у суме 498.000 руб. увайшоў у акруговыя сродкі. Прыдаць яму мэтавае назначэньне поўнасьцю не ўдалося, апрача часткі ў суме 212.000 руб., якая прызначана на ўтрыманьне пад'ездных дарог.

За кошт раённых сродкаў прызначаны галоўным чынам, работы па пабудове малых мастоў і выраўненьне палатна на дарогах раённага значэньня.

Асаблівасьцю дарожнага будаўніцтва ў 1926/27 г. г., у параўнаньні з мінулым годам, зьяўляецца: брукаваньне на суму 444.000 р. супроць 69.000 р. у мінулым годзе, пабудова жалеза-бэтонных збудаваньняў на 64.000 р.—супроць 5.000 р. у мінулым годзе і дапамога сельскім саветам на суму 43.713 р., якая праводзіцца першы раз у гэтым годзе.

Асыгнаваньне 1926/27 году па розных катэгорыях будаўніцтва разьмяркоўваецца наступным чынам: на сельскія дарогі 2,5 проц., раённыя—17,8 проц., пад'ездныя дарогі—12,0 проц., дапаможныя работы, інвэнтар і ўтрыманьне тэхнічнага пэрсаналю—12,7 проц., і акруговыя дарогі—55 проц.

Нязначнае асыгнаваньне на сельскае будаўніцтва (2,5 проц.), тлумачыцца скарыстаньнем гэтых сродкаў, галоўным чынам, на набыцьце будоўных матар'ялаў; работы-ж праводзяцца сіламі мясцовага насяленьня бясплатна.

Для таго, каб намечаны на 1926/27 апэрацыйны год плян дарожнага будаўніцтва быў поўнасьцю ажыцьцяўлен, неабходна прыняць цэлы шэраг мерапрыемстваў з аднаго боку па ўзмацненьню дарожнай арганізацыі і з другога—па своечасовым забесьпячэньні ўсіх дарожных работ неабходнымі будоўнымі матар'яламі, машынамі і струмэнтамі.

Неабходнасьць пералічаных ніжэй мерапрыемстваў у датычнасьці дарожнай справы поўнасьцю падкрэсьлена абсьледаваньнем Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, праведзеным у кастрычніку 1926 г.

Заяўка дарожнага аддзелу на лес у бягучым апэрацыйным годзе здаволена толькі на 50 проц. Скарачэньне водпуску лесу парушае вытворчы плян пабудовы мастоў на 35 проц. і цалкам пазбаўляе магчымасьці загатоўкі на будучыя гады сухога лесаматар'ялу.

Другім ня менш важным пытаньнем у справе дарожнага будаўніцтва зьяўляецца ўзмацненьне дарожнага апарату. Надмерная нагрузка тэхнічнага пэрсаналю ў мінулым апэрацыйным годзе ўтварыла вялікія перашкоды ў правільным выкананьні і падліку дарожных работ.

Яскравы малюнак перагружанасьці тэхнічнага персаналю даюць наступныя лічбы: у 1923—24 г. на аднаго тэхнічнага работніка прыходзілася перапрацаваць 9.000 р., у 1924—25 г.—22.000 р., у 1925—1926 г.—38.000 р., у 1926—27 г.—59.000 р. Нагрузка ў 1925—26 г. ў 38.000 р. на аднаго работніка, як паказаў вопыт усіх 10 акругаў, ужо была непасільна. Звычайнай нагрузкай неабходна лічыць памер перапрацоўкі ня больш 25.000 р. на аднаго тэхнічнага работніка.

Пры сярэдняй аплаце тэхнічнай адзінкі ў 1.200 р. у год прыведзеная норма перапрацоўкі на адну асобу дасьць 4,8 проц. выдат-

каў на тэхнічны пэрсаналь. За правільнасьць паказаных меркаваньняў кажа таксама і вопыт быўшых Земстваў. Кацярынаслаўскае Губэрскае Земства на сваю арганізацыю ў 1908—1910 г. выдаткавала каля 9 проц. усёй каштоўнасьці сваіх работ. (Очерк развития дорожного дела Екатеринославск. Губернск. Земства 1896—1909 г. г., стр. 35). Цемінікаўскае Павятовае Земства на тыя-ж мэты выдаткавала 9,5 проц.

Калі нават палічыць, што ў нашых умовах, апрача выдаткаў на ўтрыманьне сталага штату ў 5% робяцца выдаткі яшчэ на ўтрыманьне часовага тэхнічнага нагляду, дык агульная сума страт на тэхнічны апарат ня будзе перавышаць 9%.

У бягучым 1926/27 г. ў каштарыс на ўтрыманьне сталага тэхнічнага пэрсаналю ўнесена 55.583 руб., што зьяўляецца не выстарчальным згодна меркаваньняў. Суму на гэты выдатак неабходна было-б павялічыць да 88.000 руб. Пры гэтакім павялічэньні бюджэту колькасьць супрацоўнікаў у акруговых дарожных пададдзелах магчыма будзе давесьці да 5 адзінак у наступным складзе: 1 загадчык—інжэнэр, 3 тэхнікі і 1 дзелавод—чарцёжнік. Прыведзеныя вышэй меркаваньні аб узмацненьні дарожнага апарату падкрэсьлены Рабоча-Сялянскай Інспэкцыяй.

У цяперашні момант, калі за мінулы час ня скончаны тэхнічныя справаздачы, а ў будучым нагрузка тэхнічнага пэрсаналю павялічваецца на 65% у параўнаньні з мінулым годам, становішча дарожнай справе становіцца зусім дрэнным. Узмацненьне дарожнага будаўніцтва ў раёнах таксама патрабуе наяўнасьці тэхнічнага апарату пры камунальна-дарожных частках Раённых Выканаўчых Камітэтаў.

Да цяперашняга часу Раённыя Выканаўчыя Камітэты укамплектавалі штаты Загадчыкаў камунальна-дарожных частак на 80%, а тэхнікамі у зьвязку з нізкай аплатай іх работы толькі на 15%.

Выхадам з такога становішча можа паслужыць прадастаўленьне права Раённым Выканаўчым Камітэтам павялічваць разьмер пэнсіі тэхнікам за кошт 4-х процантных адлічэньняў на тэхнічны нагляд па ўсіх будаўнічых апэрацыях Раённых Выканаўчых Камітэтаў, як па грамадзкім будаўніцтве, гэтак і па дарожным.

Тэхнікі ў раёнах павінны адыграць вялікую ролю ў справе арганізацыі сельскага будаўніцтва сіламі самога насяленьня.

Пасьпяхоўнае правядзеньне дарожнага будаўніцтва, апрача замацаваньня дарожных арганізацый тэхнічным пэрсаналем, патрабуе забесьпячэньня яго машынамі і струмэнтамі.

Самым важным мерапрыемствам у справе ўпарадачаньня дарожнага будаўніцтва зьяўляецца ўтварэньне асобнага цэнтралізаванага дарожнага фонду.

Народны Камісарыят Унутраных Спраў неаднакратна паднімаў пытаньне аб мэтазгоднасьці ўтварэньня дарожнага фонду, за што таксама выказалася Дзяржаўная Плянавая Камісія у сваёй пастанове за 26/VI—1925 г.; урэшце, у матар'ялах па абсьледаваньні дарожнага будаўніцтва Рабоча-Сялянскай Інспэкцыяй, гэта пытаньне таксама мае станоўчае вырашэньне. Арт. 6 кажа: „як мерапрыемства па палепшаньні дарожнага будаўніцтва, неабходна скласьці рэгулюемы Народным Камісарыятам Унутраных Спраў фонд, які будзе складацца з папуднага збору і субвэнцыі, які выдаткоўваць выключна на дарогі акруговага і раённага значэньня; на сельскія дарогі выдзеліць з гэтага фонду 10%“.

Ґрунтуючыся на практыцы работы на капітальным будаўніцтве і падлічваючы рост яго ў далейшым, за кошт дарожнага фонду павінны быць аднесены: 1) утварэньне капітальных і новых дарожных работ на дарогах акруговага значэньня з грузанапружанасьцю звыш 8.000 тонн; 2) утрыманьне і паляпшэньне пад'ездых дарог; 3) забесьпячэньне дарожных арганізацый рознымі машынамі і струмэнтамі; 4)выданьне тэхнічнай літаратуры; 5) арганізацыя курсаў для дарожных дзесятнікаў.

Гэта павінна быць уведзена з будучага бюджэтнага году.

На падставе пастановы ЦВК і СНК БССР за 18/IX—1926 г. сельскае насяленьне прыцягваецца да работ на дарогах сельскага значэньня ў парадку дабравольнага ўдзелу. Аб выніках гэтых работ маюцца зьвесткі па 7 акругах (па 41 раёну).

Зводкі гэтых работ, праведзеных да 1 сьнежня 1926 года даюць наступныя данныя: выведзена і скарыстана лесу 11.249 пнёў з адпушчаных 18.960, пабудавана новых мастоў 2587 вагон. мэтр., адрамантавана мастоў 2.184 пагон. мэтр. і грэбель—79.000 вагон. мэтр.

Агульны кошт выкананых работ, уключаючы і кошт лесу, прыблізна складае—227.000 руб. Неабходна адзначыць, што гэта дасягненьне атрымана за зусім кароткі тэрмін, пры адсутнасьці ў большасьці акругаў папярэдня складзеных плянаў работ і пры зусім малым штаце тэхнічнага пэрсаналю.

Далейшыя пэрспэктывы пасьпяхоўнага разьвіцьця сельскага дарожнага будаўніцтва прымушаюць дакладна распрацаваць пытаньне аб арганізацыі работ. Чарговымі мерапрыемствамі павінны быць:

а) для арганізацыі тэхнічнага кіраваньня дарожнымі работамі неабходна ў дапамогу раёнаму дарожнаму тэхніку прыцягнуць з мясцовага насяленьня вопытных дзесятнікаў, аднёсшы ўтрыманьне іх за лік спэцыяльных сродкаў на сельскае будаўніцтва;

б) у бліжэйшы час раёны павінны скласьці пляны работ па сельскаму дарожнаму будаўніцтву на летні сэзон, падаўшы каштарысы на выдаткі на набыцьцё неабходных матар'ялаў і наём тэхнічнага пэрсаналю;

в) выдаць тэхнічныя падручнікі для работнікаў раёнаў, па рамонту і ўтрыманьню дарог і мастоў сіламі насяленьня.

У заключэньне неабходна закрануць пытаньне аб неабходнасьці перакладаньня пяцігадовага пляну дарожнага будаўніцтва. У аснову дарожных работ, пачынаючы з 1924/25 г. паложан пяцігадовы плян, зацьверджаны Дзяржаўнай Плянавай Камісіяй і Эканамічнаю Нарадай БССР. У цяперашні час выяўляецца расходжаньне гэтага пляну з жыцьцёвымі патрэбамі, што выклікаецца цэлым шэрагам прычын, напрыклад: а) зьменай сьпісу дарог у зьвязку з эканамічным іх абсьледаваньнем, б) перадачай некаторых маршрутаў Народнаму Камісарыяту Шляхаў Зносін і в) недаробкамі першых двух гадоў, якія ўнясьлі недакладнасьці ў правядзеньне плянавага будаўніцтва па гадох.

У зьвязку з гэтымі недахопамі неабходна пяцігадовы плян работ перарабіць, палажыўшы ў аснову наступнае: акруговыя дарогі павінны быць поўнасьцю аднаўлены праз брукаваньне цяжка-праяждаемых месц; пабудаваньне сталых бэтонных і жалеза-бэтонных збудаваньняў павінна атрымаць шырокае распаўсюджаньне; аднаўленьне раённых дарог павінна рабіцца з абавязковым ўжываньнем бэтонных труб замест драўняных; забясьпячэньне акруговых і раённых арганізацый неабходнымі машынамі і струмэнтамі павінна быць сваечасовым і здавальняючым; у плян павінны быць уключаны выдаткі на ўтрыманьне вартаўнікоў на вялізных збудаваньнях і сродкі на

забесьпячэньне сельскага будаўніцтва будаўнічымі матар'яламі і тэхнічным персаналем. Плян павінен абхапіць пэрыяд часу, пачынаючы з 1927/28 году. Складаньне пляну павінна быць скончана да 1 жніўня з тым, каб да гэтага тэрміну магчыма было яго ўнесьці на разгледжаньне плянавых органаў.

**Г. Рубінштэйн.**

21 студзеня 1927 г.

---

## 10. Да артыкулу „Аб сельскіх рэвізійных камісіях“*).

*(У парадку абмеркаваньня).*

Гаварыць аб пашырэньні функцыі сельскіх рэвізійных камісій, бадай-што, будзе зарана. У дзейнасьці апошніх мы ня маем ніякіх посьпехаў і ў межах нават існуючага палажэньня.

Галоўнымі недахопамі ў працы камісій трэба лічыць тое, што яны як нядаўна арганізаваныя, ня маюць выстарчальнай практыкі і належнага вопыту. З другога боку, слаба была зьвернута ўвага кіраўніцтву іх працай як з боку Раённых Рэвізійных Камісій, так і Раённага Выканаўчага Камітэту. Зусім зразумела, чаму часта бывалі выпадкі захапленьня камісіямі не сваіх функцый. Дрэнны падбор работнікаў рэвізійных камісій пры ўзрастаючай дзейнасьці мас нельга ставіць падставаю для зьмены функцый рэвізійных камісій. Наяўнасьць паказаных момантаў высоўвае пытаньне не аб пашырэньні функцый, а аб узмацненьні і пашырэньні самой працы праз уцягваньне ў яе актыву вёскі.

Няправільна, на мой погляд, ставіць пытаньне, што няма выстарчальнай падставы для працы камісій. Справа ў тым, што рэвізаваць можна і неабходна ня толькі пажарныя бочкі і школы, якія знаходзяцца ў наёмных памяшканьнях, а і сродкі, якія паступаюць, скажам, ад лясоў мясцовага значэньня, тыя, якія паступаюць на рамонт будынкаў на абшары сельскага савету; на набытак і вывазку апалу для школ і г. д., адным словам, усе авансавыя сумы, якія паступаюць у сельскі савет. Нават у тых школах, якія знаходзяцца ў наёмных памяшканьнях, ёсьць што рэвізаваць: сродкі, якія паступаюць ад Раённага Выканаўчага Камітэту і ад тых зямельных вучасткаў, якія школаю скарыстоўваюцца. Наём памяшканьня, значыць, тут ня пры чым.

Далей, ці трэба рэвізаваць, а для таго, каб рэвізаваць, ці трэба запісваць—падлічваць разам з падлічэньнем усіх іншых сум, і сумы, паступаючыя па с.-г. падатку, і ці выклікаецца гэта якімі-небудзь патрэбамі. Аб гэтым, нам скажа наступнае: калі сельскі савет набывае сродкі, альбо атрымоўвае іх, як авансы ад Раённага Выканаўчага Камітэту, то ў большасьці яны знаходзяцца ў кішэні старшыні, ці сэкратара сельскага савету, калі-ж іх зьмянілі іншыя, то, урэшце невядома, у каго з іх двох застаўся невыдаткаваны аванс і тады ў такіх выпадках ужо рэвізуе не рэвізійная камісія, а раённая міліцыя. Такія здарэньні, нажаль, маюцца і іх папярэджаваць зможа толькі рэвізійная камісія. Сельска-гаспадарчы падатак таксама неабходна падлічваць, бо бываюць выпадкі, калі сельскія саветы па спаганяньні падатку здаюць сумы несваечасова, і часта растрачваюць грошы. З кожным годам дзейнасьць сельскіх саветаў у сувязі з

*) Бюлетэнь СНК БССР за 1 студзеня 1927 г. № 1(26).

уздымам сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, культурным узроўнем працоўных мас (як кажа і т. Лібман) пашыраецца. Умовы жыцьця і дзейнасьці апошніх ставяць на чаргу пытаньне аб арганізацыі сельскіх бюджэтаў. Да гэтага трэба рыхтавацца цяпер і прывучаць сельсаветы. Неабходна мець адну касавую кнігу, праз якую-б праходзілі ўсе сродкі, паступаючыя ў сельскі савет (па нашаму раёну мы гэта мелі ў большасьці, а з наступнага году—ва ўсіх сельскіх саветах. Такім чынам сродкаў у сельсавеце, як грашовых, гэтак і матар'яльных шмат, іх толькі трэба падлічыць, а значыць і для рэвізійнай камісіі шмат працы. Ні ў якім разе нельга згадзіцца з пашырэньнем функцый сельскіх рэвізійных камісій, бо ў выніку правядзеньня ў жыцьцё гэтага мерапрыемства будзе 2 сельскія саветы, супярэчнасьці ў працы, і карысьці ад гэтага будзе вельмі мала. З гэтага вынікае:

1) трэба наладзіць падлік сродкаў у сельскім савеце,

2) функцыі камісій пакінуць у межах існуючага палажэньня,

3) зварочваць сур'ёзную ўвагу на падбор актыўных работнікаў з сялян, уцягненьне ў працу рэвізійных камісій беднаты і актыву вескі, і наогул больш зьвяртаць увагі кіраўнічай працы з боку раёнага выканаўчага камітэту і раённай рэвізійнай камісіі.

**Тузаў.**

13 студзеня 1927 г.
г. Магілёў, РВК.

---



---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**




# АБВЕСТКА

## АДЧЫНЕНА ПАДПІСКА
## на 1927 год

НА АФІЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ

## БЮЛЕТЭНЬ
# САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## БЕЛАРУСКАЕ ССР.

Праграма БЮЛЕТЭНЮ застаецца тая-ж, як і ў 1926 годзе, г. зн.: 1) **у афіцыйнай частцы** будуць зьмяшчацца ўсе афіцыйныя матар'ялы—абежнікі, інструкцыі, пастановы, палажэньні і інш. Народных Камісарыятаў і Цэнтральных Савецкіх Установаў БССР, маючыя публічна-праўны характар, і 2) **у неафіцыйнай частцы**—артыкулы з тлумачэньнямі матар'ялаў афіцыйнай часткі БЮЛЕТЭНЮ, калі апошнія будуць мець асаблівае значэньне для мясцовых установаў, а таксама артыкулы, датычныя работы ніжэйшых савецкіх установаў.

БЮЛЕТЭНЬ будзе па прыкладу 1926 году пасылацца **бясплатна** па ўсіх сельскіх саветах, хатах-чытальнях і нардамох, раённых выканаўчых камітэтах і ўсіх установах раённага маштабу, а таксама па акруговых выканаўчых камітэтах і ўстановах акруговага маштабу, Народных Камісарыятах і Цэнтральных Савецкіх Установах БССР.

Для ўстаноў і асоб, якія не ўваходзяць у паказаны вышэй сьпіс, Бюлетэнь будзе высылацца **за плату па папярэдняй падпісцы.**

Бюлетэнь будзе выходзіць па меры паступленьня матар'ялаў, але ня менш аднаго разу ў месяц.

**ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:**

на год **3** руб. **60** кап., на паўгода **1** руб. **80** кап

**Падпіску і грошы накіроўваць:**

гор. Менск, пляц Волі, 17, СНК. Рэдакцыі Бюлетэню.

*Рэдакцыйная Калегія.*